*Насустрач XXVII з'езду КПСС*

# НА ЭКРАНЕ — ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

У рэспубліцы з вялікім поспехам працягваецца паказ фільмаў, прысвечаны падрыхтоўцы да XXVII з'езда нашай партыі. У кінатэатрах і сельскіх клубах разам з мастацкімі шырока дэманструюцца дакументальныя і навукова-папулярныя стужкі, якія на жывых фактах і прыкладах паказваюць сённяшнюю самаадданую працу савецкага народа, яго намаганні па ўмацаванню міру на зямлі, а таксама старонкі гераічнага мінулага нашай партыі, нашага народа.

Фільм «Ю. У. АНДРОПАЎ. СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ» — гэта кінааповесць пра выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, сусветнага камуністычнага і рабочага руху. Зразумела, шматгранную дзейнасць і насычанае падзеямі жыццё такога чалавека немагчыма ўмясціць у рамкі адной кінакарціны. Таму аўтары абмежаваліся паказам важнейшых этапаў яго жыцця, паставіўшы ў цэнтр увагі апошні перыяд дзейнасці Ю. У. Андропава, калі ён узначальваў Цэнтральны Камітэт КПСС. Здымкі праводзіліся ў Маскве, Андропаве, Яраслаўлі, Таліне і Петразаводску, у Венгрыі і Фінляндыі — гарадах і краінах, непасрэдна звязаных з дзейнасцю Ю. У. Андропава.

Сёлета ў лютым споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Васільевіча Фрунзе. Выдатны рэвалюцыянер, легендарны герой грамадзянскай вайны, вядомы партыйны і дзяржаўны дзеяч, ён увайшоў у гісторыю і як буйны палкаводзец і ваенны тэарэтык, які заклаў асновы будаўніцтва Чырвонай Арміі — арміі новага тыпу. Яго дзейнасці і прысвечана дакументальная кінакарціна «МІХАІЛ ФРУНЗЕ — РЭВАЛЮЦЫЯНЕР І ПАЛКАВОДЗЕЦ».

Кінастужка «МАРЫЯ АЛЯКСАНДРАЎНА УЛЬЯНАВА. СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ» расказвае пра цудоўную жанчыну — маці Уладзіміра Ільіча Леніна. Яе вобраз паўстае ў фільме ў радках успамінаў сучаснікаў, у дакументах.

Тэгеран — Ялта — Патсдам. У гэтых гарадах праходзілі канферэнцыі кіраўнікоў трох саюзных дзяржаў. Там былі прыняты гістарычныя рашэнні. Сустрэчы «Вялікай тройкі» — тэма дакументальнага фільма «ТЭГЕРАН — ЯЛТА — ПАТСДАМ», які зманціраван з кадраў кінахронікі часоў мінулай вайны. Для новага фільма аўтары сабралі унікальныя кінаматэрыялы, якія складаюцца са знятых савецкімі, амерыканскімі, англійскімі і нямецкімі кінаапаратарамі кадраў.

Кінакарціна «МАНЬЧЖУРЫЯ, ВЕРАСЕНЬ 1945-га» прысвечана 40-годдзю перамогі над германскім фашызмам і японскім мілітарызмам. Фільм расказвае пра завяршальны этап другой сусветнай вайны — разгром японскіх войск на Далёкім Усходзе.

Барыс Міхайлавіч Шапашнікаў — адзін з першых маршалаў Савецкага Саюза. Амаль з самага стварэння Генеральнага штаба Чырвонай Арміі ён быў яго начальнікам і заставаўся на гэтай пасадзе да таго часу, пакуль напружаная праца і хваробы не падкасілі яго здароўе. Вядомаму ваеннаму дзеячу прысвечан дакументальны фільм «МАРШАЛ ШАПАШНІКАЎ».

Выдатны палкаводзец-тэарэтык, Барыс Міхайлавіч застаўся ў памяці саратнікаў і сяброў чалавекам высокай культуры і незвычайнай эрудыцыі, нязменна спакойным і вытрыманым. Як паказана ў фільме, Шапашнікаў быў адзіным чалавекам, якога І. В. Сталін называў па імені.

Ніколі не было так трывожна на нашай планеце, як сёння. Свет памятае аб трагедыі Хірасімы. У атамным смерчы тады загінула 100 тысяч чалавек, дзесяткі тысяч былі асуджаны на марудную пакутлівую смерць. А сёння толькі адзін залп атамнай падводнай лодкі нясе свету 960 Хірасім! І таму сёння, як ніколі раней, так востра стаіць пытанне аб самім існаванні чалавецтва і яго калыскі — Зямлі. Велізарную небяспеку нясе свету ажыццяўляемая ў ЗША праграма «зорных войнаў». Фільм «ДА СУЗОР'Я МІРУ» паказвае барацьбу Савецкай дзяржавы за спыненне гонкі ядзерных узбраенняў на Зямлі і недапушчэнне мілітарызацыі космасу.

У студзені гэтага года ў Новасібірскай вобласці былі падведзены вынікі цікавага эксперыменту па ўкараненню калектыўнага падраду на ўзроўні ўчасткаў, змен і цэхаў. У стужцы «СІБІРСКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ» прымаюць удзел дырэктары заводаў, начальнікі цэхаў і брыгадзіры прадпрыемстваў — ініцыятары эксперыменту. Яны на канкрэтных прыкладах расказваюць аб перавагах новай, прагрэсіўнай формы арганізацыі працы.

Пра камсамольцаў будаўнічага атрада, якія пасля XIX з'езда ВЛКСМ прыехалі на Пскоўшчыну для ўдзелу ў пераўтварэнні Нечарназем'я, расказвае кінастужка «ГЭТА НАША ЗЯМЛЯ».

У дакументальным фільме «НОВЫЯ АБРАДЫ — У ЖЫЦЦЁ» ідзе гаворка пра новыя савецкія рытуалы і пра тое, як заваёўваюць яны ўсё большае прызнанне сярод працаўнікоў нашых гарадоў і вёсак.

«ПРАФЕСІЯ БУДУЧАГА» — так называецца стужка, прысвечаная прафесіянальнай арыентацыі моладзі. У фільме расказваецца пра работу наладчыкаў аўтаматызаваных прадпрыемстваў, якія набываюць усё большае пашырэнне ў сучаснай прамысловасці.

«Тым, хто змагаўся на зямлі Югаславіі, прысвячаецца». Такі надпіс узнікае ў самым пачатку фільма «ПОМНІКІ ЖЫВЫЯ!». Гісторыкі падлічылі, што Бялград на сваім вяку сорак разоў спусташаўся рознымі войнамі і нашэсцямі. Але ў тыя далёкія, саракагадовай даўнасці дні савецкім войскам, якія вызвалялі югаслаўскую сталіцу, быў дадзен загад не прымяняць у вулічных баях цяжкую артылерыю. Вось чаму горад у мінулай вайне не зазнаў вялікіх разбурэнняў. Удзячныя бялградцы адной з прыгажэйшых вуліц горада далі імя маршала Талбухіна, а ў гонар савецкіх салдат-вызваліцеляў узвялі помнікі на вуліцах і плошчах. Пра многае могуць расказаць яны!

Акрамя дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, пра якія мы тут расказалі, у час кінапаказаў будуць дэманстравацца і іншыя стужкі — як новыя, так і выпушчаныя ў мінулыя гады.

Б

. Ідэя стварэння кінаэпапеі пра вялікага
рускага палкаводца нарадзілася ў народ-
нага артыста Грузінскай ССР Гіулі Чаха-
нелідзе. Іменна яго актыўнасць адыграла
пераважную ролю ў тым, што задума
стала рэальнасцю. Ён разам з вядомым
кінадраматургам Васілiем Салаўёвым на
аснове унікальных архіўных дакументаў
стварыў сцэнарый. І як толькі ён быў
створан, адразу ж стала зразумела, што
ўвасобіць яго ў фільм адной Грузінскай
кінастудыі проста немагчыма.

У вырашэнні гэтай праблемы дзейсную
ролю адыграла даўняя творчая дружба
Гіулі Чаханелідзе з народным артыстам
СССР Сяргеем Бандарчуком — аўтарам
фільма «Вайна і мір», у якім тады яшчэ ма-
лады акцёр Г. Чаханелідзе ўвасобіў вобраз
Баграціёна. Сяргей Бандарчук, даведаў-
шыся аб рашэнні зняць карціну пра леген-
дарнага палкаводца, дазволіў здымачнай
групе выкарыстаць батальны матэрыял
фільма «Вайна і мір», які не ўвайшоў у
карціну.

«...Ведаючы Чаханелідзе як цудоўнага
акцёра і таленавітага рэжысёра, буду рад,
калі матэрыял «Вайны і міру» ўвойдзе
ў яго пастаноўку»,— з такім пісьмом звяр-
нуўся С. Бандарчук у Дзяржкіно СССР і
Дзяржкіно Грузінскай ССР. Гэта быў пер-
шы крок да рэалізацыі задумы. З кінема-
таграфістаў студый «Грузія-фільм» і «Мас-
фільм» была сфарміравана творчая група.
Разам з Гіулі Чаханелідзе рэжысёрам быў
зацверджан народны артыст Грузіі Кара-
ман Мгеладзе.

— Батальныя сцэны, безумоўна, не
складаюць асноўную канву сюжэта нашага
фільма,— гаворыць К. Мгеладзе.— Пра-
цуючы над сцэнарыем, мы думалі перш
за ўсё пра тое, што ў цэнтры падзей у нас
будзе асоба гістарычная. Увогуле, калі
здымаюць карціны аб палкаводцах (а іх
было нямала — пра Суворава, Кутузава і
іншых), не дапамогуць ніякія батальныя
сцэны, калі не будзе раскрыт перш за
ўсё сам герой, яго асоба, характар, лёс.

Пётр Іванавіч Баграціён верай і праў-
дай служыў Расіі, упісаўшы ў яе гісторыю
старонкі доблесці, адвагі і гераізму. Багра-
ціён асабіста кіраваў трыццаццю вялікімі
бітвамі і больш як ста пяццюдзесяццю
ар'ергарднымі, з якіх нязменна выходзіў
пераможцам. Яго палкаводчы талент
сучаснікі апісвалі так: у запале бітвы ён
прымаў кардынальныя рашэнні, якія не
заўсёды былі зразумелыя спецыялістам,
але, як правіла, заўсёды прыводзілі да
перамогі. Моцнай воляй ён мог натхніць
і акрыліць салдат. Разам з тым гэта не
азначае, што ў нашай карціне паказан
толькі палкаводзец, які сядзіць на кані
і аддае загады. Хацелася паказаць чала-
века па-за бітвамі, расказаць, як ён жыў.

У рабоце над сцэнарыем вельмі дапа-
маглі архіўныя крыніцы. Тут аўтары выка-
рысталі пісьмы, загады Баграціёна, успа-
міны людзей, якія акружалі яго. У гісторы-
каў склалася меркаванне пра Пятра Іва-
навіча як пра чалавека тэмпераментнага,
гарачага, гэткага «сарві-галаву». На самай
жа справе ён быў іншым: спакойным і

# ГРАЦІЁН

развважным, сумленным, прамым, чулым чалавекам.

З усіх бітваў, у якіх удзельнічаў Баграціён, асабліваe месца ў карціне займае Барадзінская — адна з самых вялікіх у гісторыі. Уражаны сілай аказанага яму супраціўлення, сам Напалеон пісаў: «З усіх маіх баёў самы жахлівы той, які я даў пад Масквой. Французы паказалі сябе ў ім дастойнымі атрымаць перамогу, а рускія здабылі права быць непераможнымі».

Фільм пачынаецца з панарамы луга ля Барадзіно, залітага сонцам, насычанага духмянасцю траў і спелых ягад. Кутузаў і Баграціён аглядаюць месца будучага бою і вырашаюць, што ў самым небяспечным месцы, на левым фланзе, будзе знаходзіцца армія Баграціёна. Затым мы бачым ноч перад боем і сам бой — камандны пункт Кутузава, лагер Напалеона, атакі рускіх і атакі ў адказ французаў. Убачым Баграціёна з вынятай шпагай, які імчыць на кані наперадзе войска з крыкам «Ура!».

Баграціён — арт. Гіулі Чаханелідзе.

Але раптам ля ног яго каня разрываецца гарматнае ядро, і разам з фантанам зямлі Баграціён падае на рукі падбегшых да яго людзей. «Падніміце мяне вышэй! Я хачу бачыць атаку маіх кірасіраў!» — папрасіў ён. Салдаты паднялі яго, і на іх рукі і твары закапала кроў камандзіра. Атакуючыя спыняліся каля параненага Баграціёна, а ён крычаў: «Наперад! Наступай!» Але вось цела яго абмякла, свядомасць затуманілася, і перад вачыма смяротна параненага Баграціёна прамільгнула ўсё яго жыццё, самыя галоўныя яго моманты. І яно праходзіць перад намі на кінаэкране — яркае, насычанае, мэтанакіраванае...

Вось гарачы юнак упершыню прыехаў у сталіцу з крэпасці Кізляр, ён марыць стаць воінам і здзяйсняць подзвігі на полі бітвы. Вось ён ужо у вядомым паходзе Суворава цераз Альпы, а потым — ля пасцелі паміраючага Суворава — Настаўніка; яго вянчанне з прыгажуняй графіняй Скаўронскай, і зноў — ваенныя паходы, і пранесенае праз усё жыццё каханне да вялікай князёўны Кацярыны Паўлаўны...



І зноў — Барадзінская бітва — апошняя бітва Баграціёна. Так пабудаван фільм. Ён завяршаецца расказам аб смерці палкаводца ў вёсцы Сімы Уладзімірскай губерні і пра тое, што праз 17 гадоў, у 1829 годзе яго прах быў перанесен на Барадзінскае поле.

У ролі Пятра Іванавіча Баграціёна здымаўся Гіулі Чаханелідзе.

— Аднойчы мне ўжо давялося іграць ролю Баграціёна,— расказвае акцёр.— Гэта было ў фільме С. Бандарчука «Вайна і мір». Лёс і асоба Баграціёна настолькі захапілі мяне тады, што многія гады я вывучаў архіўныя дакументы, чытаў успаміны, разважаў пра гэтага выдатнага чалавека.

Вобраз Міхаіла Іларыёнавіча Кутузава ў розныя гады стваралі на экране буйнейшыя майстры савецкага кіно і тэатра — А. Дзікі, Б. Захава, І. Ільінскі... Цяпер у гэтай ролі мы ўбачым народнага артыста РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Міхаіла Кузняцова.

— Вядома, што цар і яго паплечнікі недалюблівалі Кутузава. Але ў рускай арміі, сярод салдат ён карыстаўся вялікай павагай, аўтарытэтам, любоўю,— расказвае М. Кузняцоў.— Іграць такую ролю адказна і вельмі цяжка. Цяжкасць заключаецца ў тым, што Кутузаў як бы добра знаёмы кожнаму ў многім дзякуючы вядомаму раману Л. М. Талстога. З пачуццём вялікай адказнасці, з хваляваннем працаваў я над гэтым вобразам.

У ролі Суворава зняўся Юрый Кацін-Ярцаў. У іншых ролях заняты Улдзіс Ліелдзідж (Барклай дэ Толі), Віктар Мурганаў (Аляксандр І), Жанры Лалашвілі (Напалеон), Ірына Малышава (Кацярына Паўлаўна), Лія Эліява (князёўна Грузінская), Ірына Алфёрава (Скаўронская).

**БАГРАТИОН**

Идея создания киноэпопеи о великом русском полководце родилась у народного артиста Грузинской ССР Гиули Чохонелидзе. Он вместе с известным кинодраматургом Василием Соловьевым на основании уникальных архивных документов создал сценарий. И как только он был создан, сразу же стало ясно, что воплотить его в фильм одной лишь Грузинской киностудии просто невозможно.

В разрешении этой проблемы существенную роль сыграла давнишняя творческая дружба Гиули Чохонелидзе с народным артистом СССР Сергеем Бондарчуком — автором фильма «Война и мир», в котором тогда еще молодой актер Г. Чохонелидзе воплотил образ Багратиона. Сергей Бондарчук, узнав о решении снять картину о прославленном полководце, разрешил съемочной группе использовать батальный материал фильма «Война и мир», не вошедший в картину. Из кинематографистов студий «Грузия-фильм» и «Мосфильм» была сформирована творческая группа.

Так родился этот фильм, в котором Багратион показан не только как полководец, но и как человек.

## Акцёры новых фільмаў

# ЛІЯ ЭЛІЯВА

Дзяцінства ў Ліі Эліявы было цяжкім, расла без бацькоў. Выхоўвалі яе дзядуля і бабуля, і самыя светлыя ўспаміны звязаны з імі. Пасля заканчэння школы Лія паступае ў Грузінскі дзяржаўны тэатральны інстытут імя Ш. Руставелі на акцёрскі факультэт, у майстэрню рэжысёра А. Двалішвілі. Затым яна працягвае вучобу ў Інстытуце тэатральнага мастацтва. Пасля бліскучай абароны дыплома (роля Ніны Чаўчавадзе-Грыбаедавай) вяртаецца ў родны горад актрысай кінастудыі «Грузія-фільм».

У той час грузінскі кінематограф уступіў на шлях адраджэння лепшых нацыянальных традыцый. Маладыя рэжысёры Рэзо Чхеідзе і Тэнгіз Абуладзе ўжо знялі свой фільм «Лурджа Магданы», які крута павярнуў кінематограф у рэчышча паэтычнасці, да паказу нацыянальнага характару. Глядач імкнуўся да вобразаў, карані якіх ляжалі ў нетрах народнага жыцця, мудрасці і прастаты.

У тыя ж 50-я гады ў фільме рэжысёра Давіда Рандэлі «Цень на дарозе» паявілася маладая, нікому яшчэ не вядомая актрыса Лія Эліява.

У гэтай першай ролі — настаўніцы Ніно — яна заявіла аб сабе як удумлівая і сур'ёзная актрыса. Пра Лію Эліяву загаварылі. У другім фільме з яе ўдзелам — карціне рэжысёра Лео Эсакія «Башы-Ачукі» — пачынаючая актрыса праявіла дзівосны талент пераўвасаблення, выканаўшы дзве ролі — сясцёр-блізнят.

З той пары мінула больш як дваццаць гадоў. Фільм вытрымаў выпрабаванне часам.

Актрыса заваявала любоў мільёнаў гледачоў не толькі драматызмам выканання, але і той акцёрскай абаяльнасцю, якая, гаворачы словамі У. Неміровіча-Данчанка, «у спалучэнні з талентам становіцца рысай амаль што рашаючай, калі размова ідзе аб заразлівасці акцёрскай творчасці, аб уплыве яе на зал гледачоў».

Партытура роляў Ліі Эліявы шматгранна. Характары і лёсы яе гераінь розныя, непадобныя, але яны заўсёды моцныя, валявыя і ў той жа час па-жаноцку абаяльныя.

Кето, якая аддала жыццё за ідэалы рэвалюцыі, з фільма «Лёс жанчыны», Ганна Цалікава, настаўніца, грамадская дзяячка, сябар Коста Хетагурава ў карціне «Сын Ірыстона», Лейла — наша сучасніца ў карціне «Дзеці мора», Кетэван — вясковая настаўніца з фільма «Я бачу сонца», Лія ў тэленавеле «Мужчынскі хор» і іншыя запамінальныя вобразы ў фільмах «Браты Сараян», «Мамлюк», «Горад прачынаецца рана», «Лазарэ», «Зорка Арыёна», «Берагі», «Сінема», «Клятвенны запіс» сведчаць аб мнагаграннасці актрысы, яе своеасаблівым драматычным таленце.

— Цяжка гаварыць аб усіх сваіх ролях, але больш за ўсё мне па душы мае гераіні ў фільмах «Башы-Ачукі», «Гарадь кастры», «Берагі»,— гаворыць Лія Эліява.— Іграла я і класічных гераінь, і маіх сучасніц. Але я ніколі не бываю задаволена зробленым, задаволенасць — у мяне рэдкае пачуццё. І заўсёды жыву надзеяй, што самая любімая роля наперадзе. Без штодзённага трэнажу, без работы ў кіно не ўяўляю сябе. У кінематографе — маё жыццё.

У новай кінакарціне «Баграціён» Лія Эліява сыграла ролю князёўны Грузінскай.

Вялікая князёўна — арт. Ірына Малышава, Баграціён — арт. Гіулі Чаханелідзе.





# ПРА ВЯРТАННЕ ЗАБЫЦЬ

У аснову фільма пакладзены сапраўдныя падзеі, якія адбываліся на Балтыцы ў канцы Вялікай Айчыннай вайны: патапленне савецкай падводнай лодкай велізарнага варожага транспарту.

Эпіграфам да фільма служаць словы Героя Савецкага Саюза М. Гаджыева: «Нідзе няма і не можа быць такой роўнасці перад тварам смерці, як сярод экіпажа падводнай лодкі, на якой або ўсе перамагаюць, або ўсе гінуць».

Здымкі карціны праходзілі на Балтыцы — у тых самых месцах, дзе разгортваліся бітвы Вялікай Айчыннай вайны. І вялікую дапамогу ў стварэнні сапраўды гістарычнага твора аказалі ваенныя кансультанты, ветэраны вайны. У фільме здымаліся не толькі акцёры, але і матросы-падводнікі.

Дзеянне карціны адбываецца ў канцы 1944 года. Трэці рэйх ужо развальваўся пад ударамі Савецкай Арміі. Аднак гітлераўскае камандаванне ўсё яшчэ спадзявалася на перамогу, і стаўка рабілася на «новую зброю». Адным з відаў такога ўзбраення былі субмарыны новых класаў і мадыфікацый. Гэтыя падводныя лодкі, паводле плана Гітлера, павінны былі блакіраваць Англію, прымусіць яе пайсці на сепаратныя перагаворы, мэтай якіх быў вывад Англіі з вайны. Тым самым вызваляліся войскі і тэхніка для бітваў на Усходнім фронце.

У порце Данцыг ваенны транспарт «Цыроль» быў гатоў да выхаду ў мора. На яго барту знаходзіліся адборныя часці СС, вермахта і 70 экіпажаў для новых падводных лодак, гатовых здзейсніць пасля перакідкі ў Кіль блакадны план звар'яцелага фюрэра.

І вось савецкая падводная лодка пад камандаваннем Булата атрымлівае заданне выявіць і атакаваць транспарт праціўніка.

Доўгія пошукі, мінныя палі, атакі эсмінцаў і абстрэлы з гітлераўскіх самалётаў прымушаюць экіпаж савецкай падводнай лодкі змагацца на мяжы чалавечых сіл. Аднак транспарт не выяўлен, аўтаномнасць плавання лодкі канчаецца. І савецкае камандаванне аддае загад падводнікам вярнуцца на базу. Але ў апошні момант «Цыроль» выяўлен. Падводнікі атакуюць фашысцкі карабель.

«Цыроль» патоплен, але і на лодцы шмат пашкоджанняў ад глыбінных бомбаў эсмінцаў, якія яго суправаджалі, а самае галоўнае — паветра канчаецца. І камандзір аддае каманду да ўспліцця, каб даць апошні бой эсмінцам, што чакалі лодку на паверхні...

Даведаўшыся пра гібель «Цыроля» і 70 экіпажаў для новых субмарын, Гітлер загадвае аб'явіць камандзіра савецкай падводнай лодкі заклятым ворагам рэйха, сваім асабістым ворагам.

Кінакарціна пастаўлена рэжысёрам Васіліем Брэскану на кінастудыі «Малдова-філм» па сцэнарыю Аляксандра Малдаўскага.

У галоўных ролях заняты Аляксандр Філіпенка, Андрэй Грыневіч, Генадзій Чулкоў, Вячаслаў Мадан, Аляксандр Пашуцін, Аляксандр Танкашкур, Сяргей Балабанаў, Аляксандр Сірын, Ігар Камароў, Віктар Церахаў, Генадзій Сайфулін, Уладас Багдонас, Маргас Туулінг.

Камандзір — арт. Аляксандр Філіпенка, Фунікэ — арт. Вячаслаў Мадан.

## О ВОЗВРАЩЕНИИ ЗАБЫТЬ

В основу фильма положены подлинные события, происшедшие на Балтике в конце Великой Отечественной войны: потопление советской подводной лодкой огромного вражеского транспорта.

...В порту Данциг военный транспорт «Тироль» был готов к выходу в море. На его борту находились отборные части СС, вермахта и 70 экипажей для новых подводных лодок, готовых осуществить после переброски в Киль блокаду Англии, чтобы заставить ее выйти из войны.

И вот советская подводная лодка под командованием Булата получает задание обнаружить и атаковать транспорт противника.

«Тироль» потоплен, однако и на лодке много повреждений от глубинных бомб эсминцев, которые его сопровождали, а самое главное — воздух на исходе. И командир отдает команду к всплытию, чтобы дать последний бой эсминцам, поджидающим лодку на поверхности...





Надзя — арт. Ірына Мураўёва, Аркадзій — арт. Аляксандр Шырвінт.

# САМАЯ АБАЯЛЬНАЯ

**Надзя Клюева, галоўная гераіня фільма, працуе ў канструктарскім бюро аднаго з інстытутаў. Яна не вельмі ўпэўнена ў сабе, і, мабыць, іменна таму ёй не шанцуе ў асабістым жыцці. А між тым у адным аддзеле з Надзяй працуюць трое мужчын: Лёша Прахін, Вова Смірноў і Міша Дзятлаў. Аднак пра тое, што іх Надзя — самая абаяльная і прывабная, яны пакуль не ведаюць...**

**Выпадкова Надзя сустрэла сваю школьную сяброўку Сусану. Сусана — жанчына рашучая, у дасканаласці валодае майстэрствам пакарэння мужчынскіх сэрцаў і, між іншым, сацыёлаг па прафесіі. Зразумела, яна не магла дапусціць, каб сяброўка так і не знайшла свайго шчасця. І Сусана пачынае дзейнічаць...**

**Пра тое, як Надзя паверыла ў сваю абаяльнасць і, натуральна, усяліла такую ўпэўненасць у Лёшу, Вову і Мішу, гледачы і даведаюцца, пагледзеўшы гэты фільм.**

**Каляровая шырокаэкранная лірычная кінакамедыя пастаўлена рэжысёрам Геральдам Бяжанавым на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыю Анатоля Эйрамджана, напісанаму ў садружнасці з рэжысёрам.**

**У ролі галоўнай гераіні знялася актрыса тэатра імя Массавета Ірына Мураўёва. Роля Надзі Клюевай, бясспрэчна, стане адной з самых прыкметных яе кінаработ**

## Акцёры новых фільмаў

# ІРЫНА МУРАЎЁВА

Калі Ірына Мураўёва сыграла ў папулярным фільме Уладзіміра Мяньшова «Масква слязам не верыць», які пабіў усе рэкорды пракату, мы даведаліся, што ў наша кіно прыйшла незвычайная, таленавітая актрыса.

Вы, безумоўна, памятаеце яе Людмілу — энергічную і няўдачлівую шукальніцу шчасця. Прыгожая, яркая, мэтанакіраваная, яна стаічна прымае ўдары лёсу і не разлучаецца з надзеяй, што «усё яшчэ можна ўладкаваць». У гэтай эксцэнтрычнай, багатай знешнімі і ўнутранымі фарбамі фігуры нахабнасць суседнічае з абаяльнасцю, стопрацэнтная самаўпэўненасць з чымсьці чуллівa жаласлівым, эгацэнтрызм — з вернасцю ў сяброўстве.

Такім чынам, карціна адкрыла нам новую таленавітую актрысу. Хто такая? Адкуль? Няўжо так упэўнена і прафесіянальна выступіла дэбютантка? Зусім не, не дэбютантка. Стаж актрысы Мураўёвай к часу ўдзелу ў фільме налічваў ужо дзесяць гадоў. Дзесяць гадоў, згубленых кінематографам. Таму што ўсур'ёз гаварыць пра ролі, якія былі прапанаваны ёй у фільмах «Чыста англійскае забойства» (Сюзана), «Іван і Каламбіна» (Валянціна), «Хачу быць міністрам» (Зіна), на жаль, нельга. Не віна актрысы, што ролі былі прахаднымі,— іграць там, па-сутнасці, не было чаго. А здымкі каштавалі, як кажуць, нямала крыві. Іх трэба было сумяшчаць з работай у тэатры, з абавязкамі жонкі і маці — няздка грудному тады Данілу даводзілася ў карзіне чакаць дзе-небудзь на студыі, за кулісамі, калі мама вызваліцца і пакорміць яго. Выратоўвалі Іру прыродны аптымізм і лёгкі характар.

Куды больш плённа, чым у кіно, пражыла тыя дзесяць гадоў актрыса ў тэатры. Пасля заканчэння школы-студыі пры Цэнтральным дзіцячым тэатры Мураўёва была прынята ў яго трупу. Іграла мноства галоўных і негалоўных роляў — прынцэс і прынцаў, хлопчыкаў, дзяўчынак і нават звяроў. Яе гераіні і героі былі абаяльныя, хітрыя, энергічныя. Актрыса цудоўна рухалася, танцавала, спявала, дэманстравала непадробнае пачуццё гумару. Але каштоўней за ўсё было рэдкае ўменне імгненна знайсці кантакт з залай, запоўненай самым складаным гледачом — дзецьмі. Кантакт, пры якім усе смешныя рэплікі з гатоўнасцю ловяцца і смешаць, усё сур'ёзнае ці сумнае — імгненна прымушае перастроіцца, падпарадкавацца актрысе, хаця на губах яшчэ не астыў смех.

Дзіцячы тэатр быў добрай школай. Праз некаторы час Мураўёву запрасілі ў акадэмічны тэатр імя Массавета, які славіцца многімі таленавітымі акцёрамі. Тут яна сыграла галоўныя ролі ў спектаклях «Дом на пяску» Рустама Ібрагімбекава, «Перавышэнне ўлады» Валянціна Чарных і іншых. Адна з апошніх работ — Грушанька ў «Братах Карамазавых» — новай інсцэніроўцы вядомага рамана Ф. М. Дастаеўскага.

— Гэта вельмі цяжкая для мяне роля,— расказвае артыстка,— яна мне заўсёды каштуе здароўя. Трэба перадаць унутраны свет Дастаеўскага. Вось ён піша, што гераіня знаходзілася ў такім істэрычным стане, яна была вельмі ўзрушана. Які гэта павінна быць на сцэне? Як іграць гэты «істэрычны стан»? У Дастаеўскага ж усё ў душы, усё ўнутры. Гэта не тое, што нехта глядзіць на яе і гаворыць: з ёй адбываецца тое і тое, бачу, як загарэліся яе вочы, яна зрабіла тое-та. Не, яна была абсалютна спакойнай знешне, а ён, Дастаеўскі, пранік у яе і зразумеў, што ў ёй адбывалася. Дастаеўскі апісвае такі стан душы, які назваць ніхто не можа, а ён называе. А мы павінны іграць.

Аб рабоце Ірыны ў гэтым спектаклі многа пісалі як аб вельмі ўдалай, але роля пастаянна ўдасканальваецца.

Мы па-рознаму глядзім на ролю, пад рознымі вугламі — глядач і сам акцёр. Для акцёра роля — гэта яго лабараторыя, мы ж бачым канчатковы вынік.

Разнастайна і многа працуе Ірына Мураўёва на тэлебачанні: полька Ганка ў «Маралі пані Дульскай», іспанская прыгажуня Інеса ў «Дуэньі», нарвежка Хелга ў «На паўшляху да вяршыні»...

І вось, нарэшце, паявілася яшчэ адна цікавая роля ў кіно — роля Марыны ў фільме В. Абдрашытава «Паляванне на лісаў». У гэтым «мужчынскім» фільме яе роля асаблівай драматургічнай нагрузкі не нясе: жонка свайго мужа, маці свайго дзіцяці, звычайная, будзённая жанчына, якая імкнецца жыць «як усе». Знікла кудысьці багацце натуры самой актрысы, засталіся хрусталь, дываны і абмежаванасць духоўнага свету. У сцэнарыі вобраз Марыны напісан схематычна, гэта хутчэй сімвал, чым характар, і ўсё ж актрыса стварае рэальны чалавечы вобраз. Паўзай, жэстам, поглядам адкрывае яна тое, што паўстае за словамі «Дом — поўная чаша», паказвае адсутнасць сапраўднай душэўнай блізкасці паміж Марынай і мужам.

З «Палявання на лісаў» яна лёгка перайшла на ролю жонкі ў фільме «Мы, што ніжэй падпісаліся», дзе яе здымаюць у



# І ПРЫВАБНАЯ

пасля фільмаў «Масква слязам не верыць» і «Карнавал».

У іншых ролях заняты Тацццяна Васільева, Аляксандр Абдулаў, Леанід Кураўлёў, Міхаіл Какшэнаў, Людміла Іванова, Ларыса Удавічэнка, Уладзімір Носік, Аляксандр Шырвінт, Леў Пярфілаў, Любоў Сакалова.

**САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ**

...Надя Клюева, главная героиня фильма, трудится в конструкторском бюро одного из институтов. Она очень не уверена в себе, и может быть именно поэтому ей так не везет в личной жизни.

Случайно Надя встретила свою школьную подругу Сусанну. Сусанна — женщина решительная, в совершенстве владеющая искусством покорения мужских сердец и, между прочим, социолог по профессии. Разумеется, она не могла допустить, чтобы подруга так и не нашла своего счастья. И Сусанна начинает действовать...

О том, как Надя поверила в свою неотразимость и, естественно, вселила эту уверенность в Лешу, Вову и Мишу, которые работали вместе с ней, зрители и узнают, посмотрев кинокартину, созданную на «Мосфильме».



Прахін — арт. Міхаіл Какшэнаў, Валодзя — арт. Аляксандр Абдулаў, Дзятлаў — арт. Леанід Кураўлёў.

купэ поезда. І самыя апошнія стужкі — «Час выбраў нас» (юная падпольшчыца) і «Карнавал» (юная правінцыялка, якая прыехала «заваёўваць» Маскву).

Роля Надзі Клюевай у новай кінакарціне «Самая абаяльная і прывабная», бясспрэчна, стане адной з самых прыкметных кінаработ Ірыны Мураўёвай. Гэта роля была напісана спецыяльна для яе.

## АЛЯКСАНДР АБДУЛАЎ

— З дзіцячых гадоў я выходзіў на сцэну. Мой бацька — рэжысёр Ферганскага драматычнага тэатра, і мне даваласе іграць мноства роляў — спачатку хлопчыкаў, потым — маладых людзей. Але калі прыехаў паступаць у Шчэпкінскае вучылішча,— праваліўся. Вярнуўся ў Фергану, аднак на наступны год зноў здаваў экзамены. Нарэшце, стаў студэнтам Інстытута тэатральнага мастацтва. Раптам на чацвёртым курсе рэжысёр Марк Захараў запрасіў мяне на галоўную ролю — лейтэнанта Плужнікава, апошняга абаронцы Брэсцкай крэпасці,— у спектакль «У спісках не значыўся». Так я стаў акцёрам тэатра імя Ленінскага камсамола...

Тут пачалі рэалізоўвацца багатыя творчыя магчымасці Абдулава — як драматычныя, так і пластычныя, і музыкальныя.

Кінематограф жа напачатку даволі эгаістычна выкарыстоўваў толькі выразныя знешнія даныя маладога акцёра. Асабліва папулярнымі сталі крыху наіўныя, злёгку сентыментальныя, неабачлівыя і рамантычныя героі Абдулава ў фільмах «Прадчуванне кахання» і «З каханымі не расставайцеся», дзе ён выступаў разам са сваёй жонкай — абаяльнай Ірынай Алфёравай. Гледачам падабалася, што акцёр быў знаёмы і сімпатычны, а яму хацелася іграць, здзіўляць непадобнасцю... Але глядач чакаў «ранейшага» Абдулава.

Кульмінацыяй рамантычнага жанру на экране стала, бадай што, роля Мядзведзя ў тэлефільме «Звычайны цуд» па п'есе-казцы Яўгенія Шварца. Тут быццам сканцэнтравалася ўсё, што рабіў да гэтага часу ў кіно Абдулаў, тут спатрэбілася яго ўменне фехтаваць (ён кандыдат у майстры спорту па фехтаванню) і ліха гарцаваць на коні... І тут ён, здаецца, і сказаў сабе: «Усё! Мне хочацца разбіць гэты стэрэатып. Я пастараюся даказаць, што здольны і на іншыя ролі...»

Не ведаем, ці тлумачыцца гэта настойлівасцю акцёра або кінарэжысёры нарэшце ўбачылі нешта новае ў яго творчым абліччы, але неўзабаве Абдулаў паявіўся на экране ў ролі элегантнага і рэспектабельнага нягодніка — мастацтвазнаўцы Волкава ў дэтэктыве «Сіцыліянская абарона». Яго Мікіта з «Карнавала» пры ўсім знешнім падабенстве да ранейшых, рамантычных герояў аказаўся баязліўцам і цынікам. А ў тэлефільме «Той самы Мюнхаўзен» Абдулаў выступіў у вострахарактарнай ролі адваката Генрыха Рамкопфа, нязграбнага і не вельмі разумнага правінцыяльнага Цыцэрона...

Затым ён сыграў эксцэнтрычную ролю Грэгара, палюбоўніка-прыстасаванца, у экранізацыі п'есы Карэла Чапэка «Сродак Макрапуласа» (фільм называўся «Рэцэпт яе маладосці»). І нарэшце — «Формула кахання», дзе Абдулаў упершыню сыграў сапраўдную камедыйную ролю. Яго дуэт з выдатным камедыйным акцёрам Сямёнам Фарадай (яны сыгралі двух слуг графа Каліостра) стаў, бадай, адным з самых запамінальных і смешных момантаў фільма.

За апошнія гады Абдулаў змяніўся і знешне. Пагляд па-ранейшаму прыгожых і крыху сумных вачэй стаў больш упэўненым. Артыст стаў крыху сухаваты і — больш сучасны. Яго папулярнасць сёння трымаецца ўжо не на сімпатыі гледачоў да пэўнага тыпу героя. Абдулаў даказаў, што можа быць цікавым у розных ролях, нават у эстрадным жанры.

— У якіх спектаклях, кіна- і тэлефільмах убачыць вас гледачы ў бліжэйшы час?

— М. Захараў «без адрыву ад вытворчасці» завяршыў работу над сваім чарговым тэлефільмам па п'есе Р. Горына «Дом, які пабудаваў Свіфт». У ім я выконваю ролю Гулівера, а ў сямісерыйнай тэлеверсіі рамана Ж. Верна «Дзеці капітана Гранта» паўстану перад шматмільённай аўдыторыяй у абліччы важака банды — Боба Дзэгця.

Як і ў «Карнавале», які ішоў на экранах, у кінастужцы «Самая абаяльная і прывабная» я здымаюся разам з Ірынай Мураўёвай.

Бадай, самая цяжкая з маіх цяперашніх работ — Лаэрт у другой за апошнія гады пастаноўцы «Гамлета» на сцэне тэатра імя Ленінскага камсамола. Галоўныя ролі рэпеціруюць А. Янкоўскі (Гамлет), І. Чурыкава (Гертруда), А. Збруеў (Кароль), М. Казакоў (Паланій), які нядаўна перайшоў у нашу трупу... Ім, як бачыце, пашанцавала, а самая «няўдзячная» роля дасталася мне. Бо па традыцыі, якая склалася даўно, Лаэрт у трагедыі — фігура цалкам функцыянальная...

Але ў нашым спектаклі гэты персанаж (паводле задумы пастаноўшчыка, вядомага кінарэжысёра Г. Панфілава) павінен, нарэшце, набыць сваё аблічча, паўстаць перад гледачамі сапраўды трагічнай фігурай, амаль што роўнай самому Гамлету.

Я паспрабую сыграць унутрана прыстойнага і лёгка ранімага чалавека, які гэтак жа, як і Гамлет, імкнецца паўстаць супраць зменлівасці лёсу і не ведае, што ў дадатак да ўсіх сваіх няўдач ён яшчэ і міжвольны выканаўца чужых каварных задум.

Баюся забягаць наперад — яшчэ не ведаю, наколькі паспяхова ўдасца здзейсніць задуманае, але прыкладу максімум намаганняў, каб гэта роля не аказалася прахадной, запомнілася гледачам.

# «Летапіс» — творчае аб'яднанне кінастудыі «Беларусьфільм»

### САКРЭТ ФІРМЫ

Друя — гэта пасёлак у Віцебскай вобласці, які ў многім падобен на сотні іншых такіх пасёлкаў Беларусі. А адметны ён тым, што тут працуе вядомае на ўсю рэспубліку сельскае прафтэхвучылішча. Новы фільм беларускіх кінадакументалістаў (аўтар сцэнарыя М. Валодзін, рэжысёр В. Кавалёў, аператар А. Алай) і расказвае пра выхаванне маладой змены меліяратараў у Друйскім прафтэхвучылішчы № 172. З яго сцен выйшла цэлая плеяда зараз вядомых у рэспубліцы экскаватаршчыкаў, якія паспяхова працуюць у многіх кутках Беларусі на меліярацыі пераўвільготненых зямель. Яны штогод вяртаюць сельскай гаспадарцы тысячы ўрадлівых гектараў.

Фільм знаёміць з навучэнцамі і іх выкладчыкамі, майстрамі высокай кваліфікацыі, якія здольны даць сваім выхаванцам добрую прафесіянальную падрыхтоўку, прывіць ім любоў да працы, беражлівыя адносіны да зямлі, да прыроды.

Меліярацыйная тэхніка сёння магутная. З яе дапамогай можна вырашаць самыя складаныя задачы, звязаныя з пераўтварэннем зямлі, прыроды. Мы бачым, як юнакі тут вучацца высокапрадукцыйна выкарыстоўваць тэхніку, якая ім будзе даверана заўтра, вучацца клапатліва яе дагледзаць. Разам з вопытнымі выкладчыкамі яны сваімі рукамі ствараюць дзеючыя мадэлі машын, на якіх давядзецца працаваць, навучальныя дапаможнікі, стэнды. Бо ўсё, створанае ўласнымі рукамі, асабліва каштоўна.

Гледачы таксама атрымаюць магчымасць азнаёміцца з формамі навучальнай і выхаваўчай работы ў передавым СПТВ, з жыццём, бытам і адпачынкам будучых меліяратараў, зробяць экскурсію па навучальных класах і аўдыторыях.

Калі гаворка заходзіць пра чыё-небудзь выдатнае дасягненне, мы часам жартуем, што гэта, маўляў, «сакрэт фірмы». Ну што ж, калі гаварыць пра поспехі вучылішча, выхаванцы якога неаднаразова з'яўляліся пераможцамі ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў прафесійнага майстэрства, то сакрэт гэты просты: добрасумленнасць і руплівасць, павага да сваёй працы і да працы іншых. Такі просты і складаны сакрэт, які з году ў год памнажае славу Друйскага СПТВ.

### ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА

Творы народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова ў жыццё цяперашняга пакалення ўвайшлі з дзіцячых гадоў, калі мы ў школе ці потым у бібліятэцы бралі ў рукі яго неўміручыя кнігі, напісаныя проста і мудра.

Гэты фільм (аўтар сцэнарыя Г. Злабенка, рэжысёр В. Кавалёў, аператар М. Южык) перш за ўсё адрасаван школьнікам, але яго з захапленнем паглядзяць усе, хто цікавіцца беларускай савецкай літаратурай.

Амаль усё дзяцінства пісьменніка прайшло, як ён піша, «на рэйках», і можа таму своеасаблівым сімвалам яго біяграфіі стала чыгунка. Ён нарадзіўся ў сялянскай сям'і, але ў хуткім часе бацька яго стаў рабочым-пуцейцам, і хлопчык усім сэрцам палюбіў працу чыгуначнікаў. Пазней пісьменнік прысвяціў ім рад сваіх твораў, у тым ліку і неўміручы «Міколка-паравоз». Несумненна, ад бацькі, таленавітага расказчыка, і ад маці, якая ведала мноства легенд і казак, народных песень, маленькі Міхась атрымаў у спадчыну непаўторны паэтычны талент.

Старонкі біяграфіі пісьменніка, яго станаўленне як літаратара і грамадзяніна праходзяць перад намі ў строгай храналогіі, шматлікія дакументы і фотаздымкі характарызуюць і час, калі ён жыў, і яго як асобу мэтанакіраваную, незвычайна таленавітую. Вялікую цікавасць мае дарэвалюцыйны перыяд яго жыцця, які знайшоў яркае адлюстраванне на экране праз паказ эпохі, праз дакументы і хранікальныя кадры. Гэтыя гады прыпадаюць на юнацтва будучага пісьменніка, калі фарміруецца асоба чалавека, калі ў яго характары закладваецца ўсё тое, што потым умацоўваецца і развіваецца.

Разам са сваім народам Міхась Лынькоў прайшоў усімі нялёгкімі дарогамі яго гісторыі, ён уславіў яго ў сваіх палымяных радках, раскрыў яго характар у сваіх творах, якія сёння чытаюць па ўсёй краіне, за рубяжом.

### НАДОМНАЯ ПРАЦА

У гарадах і вёсках жывуць тысячы людзей, якія па розных прычынах не могуць працаваць поўны рабочы дзень на вытворчасці. Але яны таксама хочуць прыносіць грамадству пасільную карысць, выконваючы работу ў дамашніх умовах.

Для каардынацыі іх дзейнасці ў рэспубліцы існуюць камбінаты надомнай працы Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР, яны і аб'ядноўваюць такіх людзей.

Новая дакументальная стужка (аўтар сцэнарыя Д. Радзюк, рэжысёр В. Кавалёў, аператар С. Сіманаў) і расказвае аб працы беларускіх надомнікаў, пра шырокі асартымент выпускаемай імі прадукцыі, аб разнастайнасці якога мы не заўсёды ведаем.

Уцягненне ў грамадскую вытворчасць, скажам, інвалідаў пэўных катэгорый, мнагадзетных маці, пенсіянераў і г. д. — надзённая сацыяльная задача. Як паказвае фільм, тут, у камбінатах надомнай працы, надомнікі могуць набыць новыя прафесіі. З імі пастаянна займаюцца вопытныя інструктары, здольныя аказаць кожнаму кваліфікаваную дапамогу.

Дзяржава таксама бярэ на сябе поўнасцю клопаты аб забеспячэнні надомнікаў усім неабходным. Яна пастаўляе ім малагабарытнае абсталяванне, якое вельмі зручна ў дамашніх умовах. Сёння ў гэтай асаблівай вытворчасці даволі шырока выкарыстоўваюцца і адыходы сыравіны мясцовых прадпрыемстваў.

Гледзячы на работу ветэранаў, пераконваешся, што працуюць яны сапраўды з душой. Многія вырабы, што выходзяць з іх рук, з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва.

# У ЧАСЫ

**Каляровая мастацкая кінастужка, знятая рэжысёрам Олавам Неўландам на кінастудыі «Талінфільм» па сцэнарыю Арва Валтона, адносіцца да жанру гісторыка-прыгодніцкіх фільмаў. У яе аснову ўзята драматычная старонка з гісторыі Эстоніі, калі тутэйшыя землі пачалі захопліваць сабе на маёнткі іншаземныя прышэльцы з рыцарскага ордэна і іх васалы. Яны імкнуліся ўвекавечыць сваё права на гэту спакутаваную зямлю, не спыняючыся ні перад чым, праліваючы кроў і сеючы смерць.**

**...Жыве на зямлі сваіх продкаў малады селянін Мелелейв. І сілай, і розумам надзяліла яго прырода. І ён вельмі**

Мелелейв — арт. Арва Кукумягі, Лііза — арт. Рэгіна Разума.



## Акцёры новых фільмаў

## ЮРЫ ЯРВЕТ

Калі ленінградскі рэжысёр Сава Куліш запрасіў Ю. Ярвета на невялікую ролю прафесара О'Рэйлі ў фільме «Мёртвы сезон», ён наўрад ці думаў, што адкрые ў акцёра непаўторную індывідуальнасць. Але атрымалася сапраўды так. Эпізадычная роля, якую сыграў Ярвет, стала на адзін узровень з бліскучым выкананнем у гэтым фільме Данатасам Баніёнісам і Раланам Быкавым цэнтральных ролей. Удзел у кінакарціне «Мёртвы сезон» прынёс Юры Ярвету шырокую вядомасць.

Але здымаўся ён у кіно і раней, і нямала — 15 стужак зняты ў Эстоніі з яго ўдзелам, прычым адна з іх — па сцэнарыю Ю. Ярвета.

Рыгор Козінцаў, наш самы «шэкспіраўскі» кінарэжысёр, задумаўшы ў свой час здымаць фільм «Кароль Лір», доўга не мог знайсці акцёра на галоўную ролю. Ён пісаў: «Грымёрам у нас павінна быць мала работы. Толькі рэальнасць твараў стварыць і асаблівасць шэкспіраўскага свету (твары, якія не сустрэнеш у метро), і натуральнасць таго, што адбываецца. Твары акцёраў з Прыбалтыкі, бадай, найбольш падыходзілі б».

Так, Юры Ярвет — эстонец. Але ў При-

# ВОЎЧЫХ ЗАКОНАЎ

любіць прыроду, добра ведае яе, як бы з'яўляючыся яе часцінкай. У той жа час юнак імкнецца пазнаць навакольны свет, і бацька аддае яго ў манастырскую школу.

Вобраз Мелелейва ўносіць у фільм казачна-рамантычныя элементы, што надае карціне рысы фільма-легенды. Мелелейв — носьбіт павер'яў, традыцый і звычаяў эстонскага народа таго часу. Ён тонка адчувае свет і моцны духам. Аднак паступова аддаляючыся ад простых сялян, ад сваіх спрадвечных каранёў, Мелелейв губляе сваю прыродную сілу. Яго перакананні і народныя звычаі паступова замяняюцца абстрактнымі ведамі, якія застаюцца па сваёй сутнасці чужымі Мелелейву. Так і атрымліваецца, што амаль насуперак уласнай волі Мелелейв становіцца памешчыкам, васалам, што разбуральна адбіваецца на яго пачатковай дабрыні.

Дзеянне фільма развіваецца па двух лініях, ён расказвае аб барацьбе сялян са стаўленікамі рыцарскага ордэна і аб каханні Мелелейва да дачкі барона Лійзе.

У карціне заняты Арва Кукумягі, Рэгіна Разума, Эган Нутэр, Юры Крукаў, Аго Роа, Хейна Мандры, Юры Ярвет, Рэйн Арэн і іншыя.

**ВО ВРЕМЕНА ВОЛЧЬИХ ЗАКОНОВ**

В основу этой историко-приключенческой кинокартины «Таллинфильма» взята драматическая страница из истории Эстонии, когда здешние земли стали захватывать себе на поместья иностранные пришельцы из рыцарского ордена и их вассалы.

Действие фильма развивается по двум линиям, он рассказывает о борьбе крестьян со ставленниками рыцарского ордена и любви крестьянского парня Мелелейва к баронской дочери Лийзе.





балтыцы дзесяткі першакласных акцёраў. Дык чаму іменна ў ім Козінцаў убачыў свайго Ліра?

Рэжысёр сам адкрыў сакрэт: «Лір можа і, мусіць, павінен гаварыць нямоцна і, зразумела, зусім натуральна, але думка і пачуццё павінны звінець стралой у тумане».

Гэтыя словы дакладна вызначаюць артыстычную манеру Ярвета. Праўда, ён сам ніколі не звярнуўся б да такога «прыгожага» вобраза, як «страла ў тумане». Да таго ж ён у прынцыпе супраць «тэарэтычных разважанняў». Калі ў яго спыталі, якія, на яго думку, асноўныя рысы характару Ліра, ён адказаў:

— Я не думаю, што пра гэта трэба гаварыць. Бо можа здарыцца так. Вы пагледзіце мой фільм і скажаце: «Ярвет сказаў тое і тое. А нічога гэтага ў карціне няма. Усё павінна быць на экране».

Калі бачыш Ярвета ў ролі, ніколі не ўзнікае сумненняў, якой бы нечаканай яна ні была. Таму што ў акцёра ёсць беспамылковы ўнутраны арыенцір — праўда.

Жыццё Ярвета было нялёгкім. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. У мастацтва яго прывяла, як ні дзіўна, гімнастыка.

— Аднойчы,— успамінае артыст,— кіраўнікі ансамбля песні і танца Эстоніі ўбачылі мяне ў гімнастычнай зале і вырашылі: «Ён можа танцаваць!»

Адначасова Ярвет займаўся і ў драматычнай студыі. У 1945 годзе паступіў у тэатральны інстытут і ў 1949 годзе закончыў яго. Год працаваў у адным з эстонскіх тэатраў, затым быў запрошан у Акадэмічны тэатр у Таліне.

...Ліра ён сыграў так ярка і пераканаўча, як быццам сам ім быў.

— Не,— усміхаецца акцёр,— у мяне няма нічога агульнага з каралём Лірам у асабістым плане, хіба толькі тое, што ў мяне ёсць дзеці. І я іх вельмі люблю.

Незвычайная ўважлівасць Ярвета да партнёра на сцэне і на здымачнай пляцоўцы ідзе ад яго вельмі вялікай чалавечай чуласці. Ён умее цаніць і ўсмешку дзіцяці, і прыгажосць прыроды, і радасць працы.

У пачатку работы над новай роляй Юры Ярвет, па яго ўласнаму выказванню, «дрэнна спіць і многа нервуецца». І спакой прыходзіць толькі тады, калі ў ролі вызначаецца галоўнае. «На Ярвета» ходзяць, яго ахвотна здымаюць у кіно, за яго аўтографамі ганяюцца. Многія называюць яго ідэалам акцёра, а сам артыст адносіцца да гэтага так, быццам гэта гавораць не пра яго, а пра некага іншага і малазнаёмага. І таму зусім не выпадковай бачыцца фраза, сказаная між іншым:

— Чалавек павінен адказваць за сваё імя.

У новым фільме «У часы воўчых законаў» народны артыст СССР Юры Арнольдавіч Ярвет выступае ў ролі Настаўніка.



# Зімовы вечар у Гаграх

З вялікім поспехам не так даўно прайшоў на экранах фільм рэжысёра Карэна Шахназарава па сцэнарыю Аляксандра Барадзянскага «Мы з джаза». Своеасаблівым працягам яго ў сэнсе мастацкіх асаблівасцей і стылістыкі стала каляровая музычная кінакарціна гэтых жа аўтараў «Зімовы вечар у Гаграх», створаная на кінастудыі «Масфільм».

У фільме расказваецца немудрагелістая гісторыя пра тое, як папулярны ў мінулым эстрадны танцор-чачотачнік Аляксей Іванавіч Бяглоў імкнецца перадаць сакрэт свайго мастацтва маладому аматару эстрады.

Гэта на першы погляд бытавая меладраматычная і ў той жа час камедыйная гісторыя паступова напаўняецца роздумам аб выбары жыццёвага шляху, закранае праблемы абавязку, дружбы, сям'і і прызвання. Вялікае месца ў фільме адведзена музыцы, песням і танцам, паказу традыцыйных відаў савецкага эстраднага мастацтва.

Яркія, запамінальныя вобразы ствараюць у кінакарціне Яўгеній Еўсцігнееў, Аркадзій Насыраў, Аляксандр Панкратаў-Чорны, Наталля Гундарава, Сяргей Ніканенка, Пётр Шчарбакоў, Святлана Аманава, Георгій Буркоў, Аляксандр Шырвінт.

У фільме прымалі ўдзел Маскоўскі камерны балет, танцоры-чачотачнікі Я. Зярноў, В. Кірсанаў, І. Фядоткін, В. Іваноў, А. Фядоткін.

## ЗИМНИЙ ВЕЧЕР В ГАГРАХ

В картине киностудии «Мосфильм» рассказывается незамысловатая история о том, как в прошлом популярный эстрадный танцор-чечеточник Алексей Иванович Беглов стремится передать секреты своего искусства молодому любителю эстрады.

Эта на первый взгляд бытовая мелодраматическая и в то же время комедийная история постепенно наполняется раздумьями о выборе жизненного пути, затрагивает проблемы долга, дружбы, семьи и призвания. Большое место в фильме отведено музыке, песням и танцам, показу традиционных видов советского эстрадного искусства.

Мельнікава — арт. Наталля Гундарава.





Аркадзій — арт. Аляксандр Панкратаў-Чорны, Бяглоў — арт. Яўгеній Еўсцігнееў.



## Акцёры новых фільмаў

# НАТАЛЛЯ ГУНДАРАВА

Імя заслужанай артысткі РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РСФСР і прэміі Ленінскага камсамола Наталлі Гундаравай выклікае ў памяці многа яркіх, запамінальных вобразаў. Пра яе многа пішуць, захапляюцца ёю, гавораць пра асаблівы феномен актрысы. Сапраўды, ужо з першых эпізадычных ролей Наталля Гундарава прыцягнула да сябе ўвагу гледачоў і крытыкі. Але пераломным момантам у яе кінабіяграфіі, сапраўдным трыумфам актрысы стаў фільм рэжысёра В. Феціна «Салодкая жанчына», у якім Наталля Гундарава сыграла эгаістычную мяшчанку Ганну Дабрахотаву. Дакладней было б сказаць — не сыграла, а пражыла жыццём гэтай жанчыны. Наталля Гундарава першай на экране стварыла такі вядомы ў жыцці тып — гарадскую мяшчанку сялянскага паходжання. Канчатковы варыянт такога тыпажу яна сыграла ў невялікім эпізодзе ў фільме «Падранкі».

На першым этапе кінабіяграфіі актрысы большасць кінакрытыкаў лічылі, што яе амплуа — прыземленыя, абмежаваныя, неінтэлігентныя жанчыны. Час і ролі абвергнулі гэту думку. Яе вобразы станавіліся ўсё больш складанымі, псіхалагічна багатымі. Цяпер актрысе па сілах роля любой ступені складанасці. Успомнім хоць бы «Асенні марафон» Г. Данелія, у якім Наталля Гундарава іграе не толькі нешчаслівую бездапаможную жанчыну, якая змаглася ад адзіноцтва, але і асобу, якая пры любых абставінах умее захаваць чалавечую годнасць і гордасць.

Наталля Гундарава — глыбока народная і ў той жа час інтэрнацыянальная актрыса, таму што гуманізм, жаноцкасць у філасофскім сэнсе гэтага слова, душэўная прыгажосць і шчодрасць істотны для ўсіх народаў і ва ўсе часы.

— Для мяне вельмі важна,— гаворыць актрыса,— каб у сцэнарыі ці п'есе змагаўся, перажываў, памыляўся і радаваўся жывы чалавек... Чалавек, а не персаніфікацыя нейкай ідэі аўтара, няхай і вельмі правільнай.

Надзвычайная здольнасць Наталлі Гундаравай ствараць вельмі розныя характары. Іншы раз не верыцца, што іх сыграла адна і тая ж актрыса. Для параўнання можна назваць хоць бы Тасю з фільма «Падранкі» і загадчыцу дзіцячага дома Ванееву ў тэлевізійным фільме «Гаспадыня дзіцячага дома».

— Памятаю,— успамінае актрыса,— як я сама ненавідзела маю гераіню ў «Падранках» — яе панскія жэсты, пагарду, бяздушнасць. Быццам бы нічога крымінальнага не робіць, але маральнае пачуццё нармальнага чалавека не вытрымлівае, калі галоднаму дзіцяці, якое просіць у дабаўку хоць кропельку супу, яна капае роўна кроплю.

— Ну, на шчасце, маленькіх дзяцей вамі палохаць не будуць. Бо не менш вядома і пазнаваема ваша гераіня ў тэлефільме «Гаспадыня дзіцячага дома».

— Так. Многія звяртаюцца цяпер да мяне як да Аляксандры Ванеевай. І ведаеце, што прасочваецца ва ўсіх гэтых пісьмах? Смутак па ўвазе. Думаю, што галоўнае ў педагогу — быць уважлівым. Слова ж якое — уважлівым — значыць,— слухаць, чуць, адгукацца. А ці многія настаўнікі, бацькі здольны адносіцца з увагай да дзяцей, бачыць твар дзіцяці, вочы, падзяляць яго радасці і непрыемнасці?

Часта дзеці хварэюць не ад скразняка зусім, а ад холаду і раўнадушнасці дарослых. Уменне падзяліць пачуццё, выслухаць — вось што, па-мойму, у выхаванні важней за ўсё. І гэта патрабуе цярпення, часу, любві. Я не ўяўляю сабе школу будучага з вялікімі, як зараз, класамі. І настаўніка проста неабходна вызваліць ад фармальнай, папяровай работы, ад бясконцых пасяджэнняў, планаў, справаздач. І ў педагагічныя інстытуты нельга прымаць тых, хто не здольны любіць і спачуваць.

Вось бачыце, я зараз гавару ад «сябе», ад асобы Гундаравай, але ўсё гэта магла б сказаць Ванеева. Напэўна таму гледачы адгукнуліся на «Гаспадыню дзіцячага дома», што я выказала гэты боль, наш агульны боль...

Паспяхова выступала актрыса таксама ў кінастужках «Дзень добры і бывай», «Зваротная сувязь», «Белы снег Расіі»,

«Няпрошаны сябар», «Вас чакае грамадзянка Ніканорава», «Гарантую жыццё», «След на зямлі», «Пакідаючы — пакідай», «Восень», «Аднойчы праз дваццаць гадоў», «Адзінокім даецца інтэрнат», «Дульсінея Табоская», «Вяртанне», «Абрыў», «Шынкарка», «Даходнае месца», «Пра беднага гусара замоўце слова», «Труфальдзіна з Бергама»...

Наталля Гундарава зараз у росквіце творчых сіл. Яе жаданне паспрабаваць сябе ў розных амплуа натуральнае. Але думаецца, што любая роля можа стаць па-сапраўднаму прыкметнай, калі яна дае магчымасць акцёру не толькі прымяніць свой талент пераўвасаблення, але і выразіць свае адносіны да свету, раскрыць сваю душу. Акцёрскае майстэрства па сутнасці сваёй глыбока інтымнае. Гэта майстэрства застацца адзін на адзін з гледачом, каб паведаміць яму пра час і пра сябе. Гундаравай ёсць з чым выйсці да людзей, яна ведае пра сваіх гераінь іншы раз нават больш, чым яны самі.

...Ускладняюцца гераіні Гундаравай — не знешнімі манерамі, а ўнутраным зместам, тэмай чалавека. Для такой актрысы, як яна, неабходна спецыяльна пісаць сцэнарыі, ставіць фільмы, спектаклі, бо непаўторна і непараўнальна яе акцёрская індывідуальнасць, глыбокая зацікаўленасць праблемамі жыцця.



У новай кінакарціне «Зімовы вечар у Гаграх» Наталля Гундарава іграе ролю эстраднай спявачкі-зоркі Мельнікавай.

# ЯЎГЕНІЙ ЕЎСЦІГНЕЕЎ

Народны артыст РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Яўгеній Еўсцігнееў здымаўся і здымаецца вельмі многа. І не важна, даручана яму галоўная роля ці маленькі эпізод — ён стварае заўсёды значныя вобразы. Значнасць — вось што абавязкова набываюць людзі, якіх іграе Еўсцігнееў. І яшчэ адна характэрная рыса ігры Еўсцігнеева: яго героі надзённыя, акцёр на дзіва дакладна адчувае час. Амаль аб усіх яго героях можна сказаць: «Я яго добра ведаю». Праўда, гэта не заўсёды прыемна: акцёр жа іграў розных бяздараў, прайдзісветаў, цынікаў, хамаў. Такімі былі яго работы ў фільмах «Сардэчна запрашаем, або Пабочным асобам уваход забаронен», «Сцеражыся аўтамабіля!», «Дзіўныя людзі», «Зігзаг удачы», «Залатое цяля», «На ясны агонь».

Яўгенія Еўсцігнеева часта называюць майстрам эпізода. Сапраўды, ён незаменны ў ролях, на якія адведзены кароткія хвіліны. Акцёр паспявае за гэтыя хвіліны надаць сваім героям значнасць. Маленькая роля — і цэлая канцэпцыя жыцця. Часта ён паказвае толькі кавалачак жыцця героя, але гэты кавалачак — уся яго сутнасць («Балада пра салдата», «У цяжкі час», «Чалавек ідзе за сонцам», «Верце мне, людзі», «Дзевяць дзён аднаго года»).

Непаўторнасць кожнага лёсу, думку, што кожны чалавек — гэта цэлы свет,— вось што ўмее паказаць на экране Яўгеній Еўсцігнееў. Ён умее паказаць сябе так, што разумееш: перад намі розум, незвычайнасць («Дзевяць дзён аднаго года», «Ім пакараецца неба», «Гіпербалоід інжынера Гарына», «Семнаццаць імгненняў вясны»).

У чым сіла акцёрскага таленту Еўсцігнеева? Бадай, яна — ва ўменні паглядзець на з'яву з розных бакоў, у імкненні раскрыць чалавека ў яго складанасці і неадназначнасці.

Амплуа гэтага акцёра немагчыма вызначыць. Яго героі вельмі розныя, вельмі непадобныя. Але асабліва хочацца адзначыць Еўсцігнеева ў камедыі. Нездарма яго звязвае творчая дружба з адным з цікавейшых нашых камедыёграфаў — Эльдарам Разанавым. Пасля фільма «Сцеражыся аўтамабіля!» рэжысёр здымаў яго ў камедыях «Зігзаг удачы», «Старыя-разбойнікі», «Незвычайныя прыгоды італьянцаў у Расіі».

Цікавай старонкай у яго біяграфіі, паводле слоў самога акцёра, застаецца работа з Васіліем Шукшыным («Дзіўныя людзі»).

— Сціплы па сваёй натуры чалавек, Васілій Макаравіч быў на дзіва чулы да акцёра,— успамінае Еўсцігнееў.

Яркія вобразы стварыў акцёр таксама ў кінастужках «Бег», «Легенда пра Тыля», «Ніколі», «Вернасць», «Супрацоўнік ЧК», «Будуецца мост», «Маладазелена», «Аповесць пра невядомага акцёра», «Дзямідавы» і іншых.

Героі Яўгенія Еўсцігнеева думаюць. Кожны пра сваё і, зразумела, кожны па-свойму. І таму, што акцёр гэты — цудоўны мімiст, на яго твары адлюстроўваюцца не толькі пачуцці і думкі, але і намёкі на пачуцці, патаемная праца думкі.

— Акцёру павінна быць лёгка,— гаворыць Я. Еўсцігнееў.— Калі ёсць галоўнае, сапраўднасць перажыванняў чалавека, калі ідзеш у ролі ад сябе сапраўднага, то ў ролі лёгка. Лёгкасць, я сказаў бы нават — элегантнасць павінны быць у акцёра ў працы. Каб глядач не адчуваў напружання ў табе. Цяжка глядзець, як чалавек сябе на сцэне праламовае, насілуе. А гэта значыць, што ён ад знешняга ідзе, «на мускулах» працуе. Бо калі ты ўжо пачаў жыць у ролі, лёгка плысць у агульнай плыні характару, таму што наўрад ці трэба мардаваць сябе. Усё — праўда. Безумоўна, бывае, стомішся, але гэта зусім не стома. Ад ролі ж атрымліваеш задавальненне.

— А як жа ўсё пачыналася?

— Вайна застала мяне ў «ролі» 15-гадовага слесара горкаўскага завода «Чырвоная Этна». Час быў цяжкі, тылавы паёк мізэрны — мінімум для таго, каб, працуючы па 12 гадзін у суткі, не падаць з ног. І ўсё ж знаходзіліся сілы і час для заняткаў у мастацкай самадзейнасці. Я быў ударнікам у джазе. Аднойчы дырэктар Горкаўскага тэатральнага вучылішча, паслухаўшы нас, прапанаваў мне ў іх вучыцца. Пасля вайны паступіў. Затым — работа ва Уладзімірскім драмтэатры, у маскоўскім «Сучасніку», а ў 1970 годзе я быў запрошан у трупу МХАТа.

Мой кінадэбют — эпізадычная роля палкоўніка Петэрсана ў фільме «Паядынак» (1957 г.). Памятаю, на здымках пабочныя шумы ўвесь час адцягвалі маю ўвагу, я забываў тэкст і ад гэтага яшчэ больш канфузіўся. Калі ж фільм выйшаў, было адзначана, што ў ролі, якую выконваў навічок, ёсць «ізюмінка».

— Ці ўдалося вам, на ваш погляд, дасягнуць вяршыні майстэрства ў якой-небудзь ролі?

— Думаць пра поспех акцёру ўвогуле небяспечна. Гэта, мне здаецца, супярэчыць сутнасці ўсялякай творчай дзейнасці. Аб гэтым нядрэнна сказана ў вядомай прытчы. Аднойчы вялікага датчаніна — скульптара Тарвальдсена — засталі ў слязах ля новай скульптуры. Яго спыталі, чаму ён пралівае слёзы — статуя ж цудоўная! «Магчыма, вы і маеце рацыю,— адказаў ён,— але я павінен бачыць у ёй недахопы, каб наступная рэч аказалася яшчэ лепшай. А я іх не бачу — і гэта страшэнна!..»

— Што, па-вашаму, з'яўляецца галоўным у майстэрстве акцёра?

— Для мяне ў кожнай ролі важна не столькі адкрытая дэкларацыя ідэй, колькі чалавечае вырашэнне вобраза, развіццё яго, так сказаць, у глыбіню. Глядач глядзіць у вочы акцёру і бачыць, якія яны: гарэзлівыя і вясёлыя, ці сумныя і маркотныя. І калі верыць ім — у яго ўзнікае кантакт з акцёрам. Вочы сыграць нельга — яны павінны быць сапраўды вясёлымі, сумнымі, злымі, лютымі. Акцёр хварэе бедамі свайго героя, жыве яго думкамі — гэта і ёсць пераўвасабленне акцёра.

— Як вы адносіцеся да смеху? Ці патрэбен гумар пры стварэнні вобраза?

— Яшчэ як! Задача акцёра — у любым характары знайсці гумарыстычныя рысачкі, прычым не абавязкова толькі ў камедыі. Вобраз становіцца паўнакроўным, цікавым, запамінальным. Сіла смеху вялікая — ён можа захапіць і прымусіць засумаваць, паразіць і ўваскрасіць. Недзе прачытаў, як гумар выратаваў пісьменніка Аляксандра Дзюма-бацьку ў зусім бязвыхадным становішчы. Аднойчы на балу Дзюма пасварыўся з афіцэрам. Той — у амбіцыю. Вырашылі так: хто выцягвае жрэбій — ідзе ў суседні пакой і страляецца. Жрэбій выпаў Дзюма. Палавіна дам — у непрытомнасці. Рабіць няма чаго — пайшоў. Выстрал. Другая палавіна дам — у непрытомнасці. Адчыняюцца дзверы — на парозе Дзюма з пісталетам у руцэ. «Прамахнуўся,— засмучана кажа,— не папаў». Больш за ўсіх рагатаў афіцэр, які пачаў сварку.

— Як праводзіце свой вольны час?

— На жаль, вольнага часу мала. Калі ўдаецца, слухаю музыку. Гэта заўсёды добры імпульс для фантазіі. Аддаю перавагу творам Пракоф'ева, Ліста...

У снежні гледачы сустрэнуцца з Яўгеніем Еўсцігнеевым у новай кінакарціне «Зімовы вечар у Гаграх», у якой ён бліскуча сыграў ролю Аляксея Іванавіча Бяглова.

# ДВАЙНАЯ ПАСТКА

Каляровая двухсерыйная мастацкая кінакарціна з такой назвай пастаўлена рэжысёрам Алоізам Брэнчам па сцэнарыю Уладзіміра Кузняцова на Рыжскай кінастудыі. Яе сюжэт пабудаван на праціборстве супрацоўніка МУС са злачыннай групай, якая займалася вывазам за межы нашай дзяржавы рэчаў, якія маюць немалую мастацкую каштоўнасць.

Вобраз галоўнага героя «Ферзя» — гэта вобраз мужнага, моцнага, спрытнага чалавека, непрымірымага да ворагаў, які валодае ўсімі неабходнымі якасцямі супрацоўніка праваахавальных органаў.

На фоне асноўнага дзеяння ў фільме паказана тая невялікая частка маладых людзей, для якіх характэрны адсутнасць уласнай думкі, сапраўднай мэты ў жыцці, бяздумнае пакланенне заходняй «модзе», капіраванне яе негатыўных тэндэнцый і, вядома, нястрымнае імкненне «прыгожа жыць», дастаць паболей грошай любой цаной, у тым ліку і спекуляцыяй. Напэўна, таму на экране паказаны не столькі характары, колькі дасье. Зрэшты, як і належыць у такім свеце, з дакладным падзелам на катэгорыі і калібры, Майкл Брук, супрацоўнік аднаго з замежных гандлёвых прадстаўніцтваў, лічыць сябе ўсяго толькі «бізнесменам». Але Бары, які стаіць за яго плячамі, добра ведае, што такі «бізнес» у белых пальчатках не робіцца. Так, іх больш цікавіць, як правезці ў нашу краіну «тавар» іншага роду, ідэалагічны, каб зрабіць свой уплыў хаця б на якую частку моладзі, стварыць пажыўнае асяроддзе для будучых акцый.

Свая іерархія і ўнутры шайкі, у якую ўкараняецца «Ферзь»: ад сувязнога з рэакцыйнымі коламі латышскай эміграцыі Блумберга, які нават завёў асабісты рахунак у заходнім банку, да сошак больш дробных — «Фатографа», «Банана», якія працуюць, так сказаць, на падхваце.

Спачатку падсоўваюць стракатае барахло, часопісы, касеты. Затым у прыдачу нагружаюць антысавецкай літаратурай і адозвамі. А далей — тая самая пастка. І выкараскацца з яе зусім не так проста. Як Каспару, аднаму з хлопцаў, што клюнуў на вудачку «шыкарнага жыцця», а зараз быццам бы зразумеў, куды можа завесці такая дарога. Але ёсць яшчэ Ілмар, Алберт, Аіда, Бірута... Кагосьці купілі лёгкімі заработкамі, хтосьці аказаўся ў гэтай кампаніі з-за прыхільнасці да дыска-музыкі, ці, як Рыта, проста з-за кахання.

На фоне афёр, кватэрных крадзяжоў і нават забойстваў іх «балдзёж» не выглядае такім ужо страшэнным злачынствам. Але па-сутнасці тут ідзе праверка на здатнасць для «справы», свайго роду фільтрацыя. Першы этап — вечарынка ў «Банана», другі — відэасеанс ужо на віле дзялка-махінатара Адамсана.

«Ферзя», зразумела, па ходу аперацыі цікавяць фігуры буйнейшага плана, а не гэтыя юнцы. Яго задача — выйсці на тых, хто напрамую звязан з уцечкай антыкварыяту. Але ў канчатковым выніку ён вядзе бой за маладыя душы — вось што галоўнае.

Акцёрскі ансамбль фільма падбіраўся ў першую чаргу зыходзячы з унутраных якасцей артыстаў. Але немалаважнае значэнне мелі і іх знешнія даныя, падобнасць на задуманых герояў карціны. Так, напрыклад, на галоўную ролю «Ферзя» быў запрошан Альгіс Матулёніс, які валодае добрымі фізічнымі данымі. Галоўную жаночую ролю выканала Ліліта Азаліня. Яе сына іграе Яніс Екабсанс.

### ДВОЙНОЙ КАПКАН

Сюжет фильма Рижской киностудии построен на противоборстве сотрудника МВД с преступной группой, занимавшейся вывозом за пределы нашего государства предметов, представляющих немалую художественную ценность.

Образ главного героя «Ферзя» — это образ мужественного, сильного, ловкого человека, непримиримого к врагам, обладающего всеми необходимыми качествами сотрудника правоохранительных органов.

На фоне основного действия в фильме показана та небольшая часть молодых людей, для которых характерны отсутствие собственного мнения, цели в жизни, бездумное поклонение западной «моде», копирование ее негативных тенденций. И, конечно, огромное стремление «красиво жить», достать побольше денег любой ценой, в том числе и спекуляцией.

Сначала им подсовывают пестрое барахло, журнальчики, кассеты. Затем в придачу нагружают антисоветской литературой и воззваниями... А дальше — та самая ловушка. И выбраться из нее совсем не просто.



# ВЕДАЙ НАШЫХ!

— Іван Максімавіч,— крануў за плячо Паддубнага рамізнік,— скажы, ці паедзем мы сёння ў Казань! А то ж прападуць білеты, як учора і заўчора.

Нягледзячы на хітрыкі купцоў, якія хацелі абагаціцца за кошт паражэння Паддубнага, ён усё ж своечасова прыехаў на Казанскі кірмаш 1900 года. Тут сустрэў новых сяброў — казахскага асілка Хаджы Мукана і рускага Рыгора Кашчэева, разам з якімі перажыў потым розныя прыгоды — вясёлыя і сумныя. Яны і сталі асновай сюжэта каляровай мастацкай стужкі «Ведай нашых!», знятай на кінастудыі «Казахфільм» па сцэнарыю Рустэма і Султана Хаджыкавых.

— Асноўныя здымкі нашай карціны,— расказвае заслужаны дзеяч мастацтва Казахскай ССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі рэжысёр-пастаноўшчык Султан Хаджыкаў,— праходзілі ў Казані. Тут у пачатку стагоддзя збіраліся другія па велічыні і вядомасці пасля славутых Ніжагародскіх кірмашы ў Расіі. У тыя часы яны былі падзеяй не толькі гандлёвай, але і культурнай. Нават артысты-карыфеі, такія, як, напрыклад, Шаляпін, лічылі і ганаровай і прэстыжнай для сябе справай выступіць на кірмашы.

Тое ж самае можна сказаць і аб спартсменах. На адзін з падобных кірмашоў прыехаў у Казань па справах купца і жывёлапрамыслоўца яго работнік Хаджы Мукан. Тут на барцоўскім памосце і адбылася сустрэча асілка стэпу з вядомым волатам Іванам Паддубным, якая паклала пачатак іх доўгай дружбе і крута змяніла лёс Мукана.

Гэта і ёсць галоўная тэма нашага фільма — дружба легендарных барцоў-асілкаў, нацыянальных герояў, шматразовых пераможцаў у міжнародных спаборніцтвах па класічнай барацьбе.

Сцэнарый карціны расказвае пра вельмі важны для станаўлення барца Хаджы Мукана перыяд жыцця ў Пецярбургу, вучобу ў славутай школе барцоў Івана Лебедзева, куды пасылае яго Паддубны.

Выканаўцы ролей, на мой погляд, падабраліся ў фільме цікавыя. Хаджы Мукана іграе Алеухан Бекбулатаў. На здымачнай пляцоўцы ён упершыню. Прафесія яго — механізатар, узначальвае брыгаду трактарыстаў саўгаса «Дастык» Чардарынскага раёна Чымкенцкай вобласці. Алеухан трапіў на ролю, стаўшы пераможцам конкурсу, аб'яўленага рэспубліканскай маладзёжнай газетай. Сам ён спартсмен, барэц, удзельнік спаборніцтваў па нацыянальнай барацьбе. Перш чым пачаць здымацца, будучы выканаўца прайшоў добрую падрыхтоўку ў камандзе барцоў у зборнай рэспублікі, якую трэніруе заслужаны майстар спорту міжнароднага класа Іван Ярыгін. Так што Алеухан у карціне працаваў без дублёраў. Як ён аднасіцца да свайго героя! Вось толькі адзін штрых. Нядаўна ў яго нарадзіўся чацвёрты сын, і Алеухан назваў яго Хаджы Муканам.

Івана Паддубнага згадзіўся іграць малады, але ўжо вядомы акцёр Дзмітрый Залатухін. Дарэчы, у юнацтве ён таксама захапляўся спартыўнай барацьбой.

У падзеях фільма ўдзельнічаюць яшчэ два барцы. Рыгора Кашчэева, таксама вядомага спартсмена тых часоў, іграе Аляксандр Фуфачоў. На гэту ролю мы шукалі чалавека не толькі барцоўскага складу, але і высокага росту, як гэта было ў жыцці. Знайшлі яго ў Якуціі, на вугальным разрэзе Нюрэнгры, дзе Саша працуе слесарам вышэйшага разраду па рамонту 120-тонных самазвалаў. У ролі французскага барца Рауля дэ Бушэ выступае пяціразовы чэмпіён свету, трэнер зборнай краіны Саслан Андзіеў.

Кінарасказ пра Хаджы Мукана адрасаван у першую чаргу моладзі. Таму аўтары зрабілі яго яркім, рамантычным, відовішчным, з героямі, дастойнымі перайманняя.

**ЗНАЙ НАШИХ!**

Кинокартина, созданная на «Казахфильме», рассказывает об известном борце Иване Поддубном, о том, как он приехал на Казанскую ярмарку 1900 года. Здесь Поддубный встретил друзей — казахского богатыря Хаджи Мукана и русского Григория Кащеева, вместе с которыми пережил разнообразные приключения — веселые и грустные. Они и стали основой сюжета цветной художественной кинокартины.



Паддубны — арт. Дзмітрый Залатухін, Фарбас — арт. Георгій Марцірасян.

# КІНО — ШКОЛЕ

**Рэкамендацыі па выкарыстанню дакументальных і навукова-папулярных фільмаў у навучальна-выхаваўчай рабоце па праграмах студзеня**

Студзень — любімы месяц школьнікаў. Гэта перш за ўсё — чароўнае навагодняе свята, а потым — доўгачаканы час — канікулы. Вельмі важна своечасова паклапаціцца, каб зімовыя канікулы прайшлі з максімальнай карысцю для адпачынку і ўмацавання здароўя дзяцей, іх усебаковага развіцця. У час канікул можна больш увагі ўдзяліць, у прыватнасці, эстэтычнаму выхаванню дзяцей, шырэй пазнаёміць іх з рознымі відамі мастацтва, у першую чаргу — мастацтва кіно, яго мовай і тварцамі.

Пэўныя звесткі пра кіно вучні ўжо маюць, яны іх атрымалі з ранейшых расказаў настаўніка, з гутарак, якія ў свой час друкаваліся ў нашым часопісе. Цяпер настаўнік павінен павесці вучняў далей. Для гэтага мэтазгодна арганізаваць калектыўныя прагляды не толькі мастацкіх, а і дакументальных, навукова-папулярных фільмаў з іх наступным абмеркаваннем, дыспуты і канферэнцыі, сустрэчы з акцёрамі, рэжысёрамі і іншымі кінаспецыялістамі.

Для знаёмства з творчасцю майстроў савецкага кіно можна выкарыстаць дакументальныя фільмы «Сяргей Эйзенштэйн» (5 ч.), «Я належу чалавецтву» (2 ч.) — пра А. П. Даўжэнку і навукова-папулярны «Усевалад Пудоўкін» (6 ч.), якія расказваюць пра буйнейшых савецкіх кінарэжысёраў. А стужкі «Інтэрв'ю на здымачнай пляцоўцы» (1 ч.), «Пранікненне ў ісціну» (1 ч.), «Кінаэпапея працягваецца» (1 ч.) пазнаёмяць школьнікаў са стваральнікамі кінакарцін «Зваротная сувязь», «Блакада», а таксама з акцёрамі А. Янкоўскім, М. Ульянавым, Л. Гурчанка, К. Лаўровым, Ю. Саломіным, У. Стржэльчыкам, з выдатным рэжысёрам і акцёрам С. Бандарчуком.

Кіно дапаможа навучэнцам лепш пазнаёміцца і з рознымі відамі выяўленчага мастацтва, з яго буйнейшымі майстрамі. Такія фільмы выдатна дапаўняюць лекцыі і гутаркі, паходы ў музеі. Гэта перш за ўсё дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы, якія расказваюць пра буйнейшыя музеі свету,— «Дзяржаўны Эрмітаж», «Шэдэўры Музея імя А. С. Пушкіна», «Дзяржаўны рускі музей», «У Траццякоўскай галерэі», «Рэпартаж са свету скарбаў» — аб выстаўцы Алмазнага фонду СССР. А навукова-папулярная стужкі «Як ствараецца скульптура», «Скульптар і час», «Я помнік збудаваў», «Скульптурны партрэт» раскрыюць дзецям асновы мастацтва скульптуры.

З 3 па 9 студзеня будзе праходзіць Усесаюзны тыдзень навукі, тэхнікі і вытворчасці для дзяцей і юнацтва. Асаблівае значэнне набывае Тыдзень цяпер, калі ажыццяўляецца задача рэзкага паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны на базе дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, ва ўмовах перабудовы школы, калі навучанне павінна максімальна набліжацца да жыцця, да вытворчасці. Важна захапіць дзяцей рамантыкай сучаснай тэхнікі, абудзіць прагу ведаў.

Навукова-тэхнічнай рэвалюцыі прысвечан навукова-папулярны фільм «...І аддаць машыне чалавечае» (5 ч.). На прыкладзе ЗІЛа тут паказана вынаходніцкая работа вучоных, інжынераў, рабочых. Навукова-папулярны фільм «Парадоксы «думаючага» станка» (2 ч.) раскрывае сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы, звязаныя з укараненнем на заводах станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем. Аўтары навукова-папулярнай кінакарціны «Гэты нелінейны свет» (2 ч.) расказваюць, як нараджалася адна з вядучых галін сучаснай фізікі — нелінейная оптыка. Буйнейшыя нашы будоўлі вучні ўбачаць у фільмах «Гэта КамАЗ», «Цаліна БАМа», «Энергія Экібастуза», «Складаемыя поспеху» — пра «Уралмаш». Зацікавяць школьнікаў і стужкі «Чалавек у патоку інфармацыі», якая расказвае пра цяперашні інфармацыйны выбух і яго вынікі, і «Плануючы эканомію» (1 ч.) — пра нетрадыцыйныя крыніцы энергіі.

У студзені пачынаецца трэцяя навучальная чвэрць. Дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы дапамогуць вучням хутчэй уключыцца ў работу, больш глыбока засвойваць навучальны матэрыял. Так на ўроках гісторыі пры вывучэнні паўстання дзекабрыстаў васьмікласнікам вялікую карысць прынясуць навукова-папулярныя стужкі «Пакуль свабодаю гарым» (2 ч.), «У глыбіні сібірскіх руд...» (2 ч.), «Чароўныя вобразы» — пра жонак дзекабрыстаў, якія паехалі ў Сібір да сваіх ссыльных мужоў. А дзевяцікласнікам пры вывучэнні адпаведных тэм цікава будзе паглядзець дакументальную кінакарціну «Цяжкая пасада быць рэвалюцыянерам» (5 ч.) — аб дзейнасці У. І. Леніна ў час падрыхтоўкі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і навукова-папулярны фільм «Мы былі шчаслівыя» (М. Падвойскі) (2 ч.) — пра жыццё і дзейнасць саратніка У. І. Леніна.

На ўроках літаратуры дзевяцікласнікі з цікавасцю паглядзяць навукова-папулярныя стужкі пра Ф. М. Дастаеўскага, розныя перыяды яго жыцця і творчасці — «Фёдар Дастаеўскі. Штрыхі да партрэта» (5 ч.) — аб светапоглядзе пісьменніка, «Дастаеўскі ў Казахстане» (2 ч.) — аб яго ссылцы ў Сяміпалацінск, «Малюнкі Дастаеўскага» (2 ч.). Дзесяцікласнікам жа шмат новага дадуць дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы «Аляксандр Фадзееў, успаміны» (4 ч.), «Памяць сэрца» (1 ч.) — пра А. Карнейчука, «Міхаіл Святлоў» (2 ч.), «...Маўчаць не буду я ніколі» (2 ч.) — пра П. Броўку, «Акын» (1 ч.) — пра Джамбула.

Трэба толькі сачыць, каб паказ кінафільмаў на ўроках і пазакласных мерапрыемствах не ператвараўся ў самамэту, а дапамагаў вырашаць пастаўленыя навучальныя і выхаваўчыя задачы.

# *Легенда Сярэбранага возера*

**Так называецца каляровая шырокаэкранная мастацкая кінааповесць, пастаўленая рэжысёрам Эльдарам Куліевым на кінастудыі «Азербайджанфільм» па сцэнарыю, напісанаму ім у садружнасці з Ісі Мелікзадэ. Карціна ўзнімае важную праблему сапраўдных і ўяўных каштоўнасцей жыцця на прыкладзе простай гісторыі кахання.**

**...Вучоны-мастацтвазнаўца Фарыд жыве прывычным мітуслівым жыццём маладога гараджаніна. У яго ёсць усё — жаданая работа, каханая, кола сяброў. Але ўсё гэта неяк няпоўна, нават пуста, бо не хапае ва ўсім гэтым ланцугу неабходнага звяна — жывога жыцця душы.**

**Драматычная на першы погляд, але як высвятляецца пазней — трагіфарсавая гісторыя, прымушае Фарыда адправіцца ў далёкую камандзіроўку ў вёску. Там упершыню ў жыцці спазнае ён сапраўднае каханне. Але на яго шляху стаяць сур'ёзныя жыццёвыя перашкоды — жаніх Лейлі, яе сям'я і... ён сам.**

**Герою даводзіцца пакінуць вёску, каб не парушаць мір і спакой сям'і каханай, але ператварэнне ў ім пачалося ўжо.**

**Пасля вяртання ў горад усё ўжо здаецца іншым, і для Фарыда пачынае вызначацца сапраўдная каштоўнасць рэчаў.**

**Невядомая сіла, а магчыма проста сіла пачуцця, не асэнсаванага да канца, гоніць яго назад, у вёску, да Лейлі. А Лейлі, пераступаючы традыцыйныя звычаі, спяшаецца ў горад насустрач Фарыду. Бо ў іх ёсць агульная тайна — тайна Сярэбранага возера, сімвала чысціні душы. І ледзь не размінуліся нашы героі каля бензакалонкі. Ды ўсё ж сустрэліся, знайшлі адзін аднаго поглядамі. Ці збудзецца гэта каханне, ці будуць шчаслівыя яны — пра гэта няхай мяркуе глядач.**

**Галоўныя ролі выконваюць Эльданіз Расулаў, Алена Серапава, Матанат Атакішыева, Шукюфа Юсупава, Кяміль Захрабаў і іншыя.**

**ЛЕГЕНДА СЕРЕБРЯНОГО ОЗЕРА**

**...Ученый-искусствовед Фарид живет привычной суетливой жизнью молодого горожанина.**

**Драматичная на первый взгляд, но как выясняется позже — трагифарсовая история заставляет Фарида отправиться в далекую командировку в село. Там он впервые в жизни познает подлинную любовь. Но на ее пути стоят серьезные жизненные преграды — жених Лейли, ее семья и... он сам.**

**Будут ли они счастливы, состоится ли эта любовь — об этом и идет речь в кинокартине, созданной на «Азербайджанфильме».**



*ГЭТА ЦІКАВА*

# У трох вымярэннях

У 1976 годзе ў Савецкім Саюзе ўпершыню ў свеце адбылася здымка і паказ двухмінутнага галаграфічнага фільма — кінакарціны з аб'ёмным адлюстраваннем. Адначасова чацвёра гледачоў маглі бачыць на метровым экране трохмернае аднаколернае адлюстраванне дзяўчыны, якая кідае ў бакал жамчужныя пацеркі. Адлюстраванне было настолькі рэалістычнае, што здавалася: дзяўчына знаходзіцца прама ў зале.

Затым былі праведзены эксперыментальныя каляровыя галаграфічныя здымкі. Пра дасягненні і перспектывы ў гэтай галіне расказвае прафесар Віктар Рыгоравіч Комар, які ўзначальвае лабараторыю стэрэакінематаграфіі Навукова-даследчага кіна-фотаінстытута (НДКФІ) у Маскве.

— Чалавек з дзяцінства захапляецца прыгажосцю навакольнага свету і бачыць яго трохмерным — такім, якім ён і з'яўляецца ў сапраўднасці. Галаграфічнае кіно дапамагае максімальна дакладна адлюстраваць існуючую рэальнасць. Галаграфія — гэта зусім не абман зроку, гэта вялікае дасягненне тэхнікі. Стварэнне трохмернага кінематографа стала магчымым дзякуючы таму, што ў 1948 годзе англічанін Д. Габар адкрыў галаграфічны эфект, а ў 1964 годзе савецкія вучоныя М. Басаў і А. Прохараў стварылі лазеры. Вялікі ўклад у развіццё савецкай галаграфіі ўнеслі работы члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Ю. Дзенісюка.

Наша лабараторыя,— працягвае В. Р. Комар,— займаецца распрацоўкай спецыяльнай галаграфічнай кінатэхнікі. У садружнасці з шэрагам прадпрыемстваў мы стварылі асаблівую 70-міліметровую кінаплёнку са спецыяльным дробназярністым пакрыццём, якая можа фіксаваць аб'ёмныя адлюстраванні на адной асобнай галаграме, а таксама кіназдымачны аб'ектыў з шырынёй лінзы 200 міліметраў (што значна шырэй звычайнага), які дазваляе здымаць мноства адлюстраванняў у розных ракурсах. Акрамя таго, мы сканструявалі галаграфічны экран, праўда, пакуль толькі шырынёй адзін метр, які з'яўляецца своеасаблівым галаграфічным люстэркам. Яно размнажае адлюстраванне па колькасці месц для гледачоў, і тым самым ствараецца поўны эфект аб'ёму. У распрацоўцы такіх тэхнічных сродкаў для галаграфічнага кінематографа многае зроблена калектывам супрацоўнікаў лабараторыі, асабліва Алегам Сяровым.

Упэўнен, што будучае належыць трохмернаму кінематографу. Пераход да яго гэтак жа непазбежны, як пераход ад нямога кіно да гукавога, а затым ад чорна-белага — да каляровага. Гэты новы тэхнічны сродак нясе ў сабе надзвычай вялікія творчыя магчымасці, стварае на дзіва рэалістычнае адлюстраванне прадмета у прасторы. Пакуль здымкі з дапамогай лазера, на жаль, даюць магчымасць ствараць толькі павільённыя кадры, таму натурныя здымкі пакуль што будуць рабіцца з дапамогай стэрэаскапічнай тэхнікі, якая таксама дае трохмернае адлюстраванне, але грунтуецца на іншых тэхнічных прынцыпах.

У нашай краіне працуе 15 стэрэакінатэатраў, у тым ліку — і ў Мінску, і штогод здымаюцца ігравыя мастацкія стэрэакінафільмы, якія выклікаюць вялікую цікавасць у гледачоў. Нашы спецыялісты дапамаглі адкрыць такія кінатэатры ў Сафіі, Варшаве, Берліне.

Мы стварылі таксама галаграмы — аб'ёмныя фотаздымкі, якія ўзнаўляюць асобныя музейныя экспанаты. Выстаўкі, якія мы арганізавалі ў апошнія гады, выклікалі вялікую цікавасць не толькі ў нашай краіне. Так, галаграма, якая экспанавалася на Міжнародным кніжным кірмашы ў Маскве ў 1983 годзе, была перададзена ў дар ЮНЕСКА. Некаторыя музеі зарубежных краін звяртаюцца ў НДКФІ з просьбай зрабіць для іх галаграму якога-небудзь унікальнага экспаната. Па агульнаму прызнанню спецыялістаў, савецкія галаграмы пераўзыходзяць па якасці многія замежныя. Яны з поспехам экспанаваліся ў ЗША, Францыі, іншых краінах.

Вырашаючы праблемы галаграфічнага кінематографа, мы спачатку дабіліся высокамастацкага статычнага адлюстравання. Галаграма — гэта кадр галаграфічнага фільма — тое самае, што і фатаграфія ў звычайным кіно. Яна ўзнаўляе дакладнае аб'ёмнае адлюстраванне прадмета, які знаходзіцца як бы за шклом у паглыбленні, і тое, што перад вамі тонкая пласцінка, відаць толькі, калі паглядзець збоку.

— Я думаю,— гаворыць у заключэнне В. Р. Комар,— што хутка пачне развівацца навукова-папулярны і навучальны галаграфічны кінематограф. Калі гаварыць аб нашых планах, то мы хочам стварыць трохметровы экран, а ў наступнай пяцігодцы адкрыем спецыяльны кінатэатр-атракцыён і здымем кінапраграму ўжо не ў сценах нашага інстытута, а на кінастудыі.

# Адзін з «няўлоўных»

На экранах нашай рэспублікі з вялікім поспехам дэманструецца новая гісторыка-рэвалюцыйная кінакарціна «Раніца закінутага прыіска». Ролю Міцькі ў ёй выконвае Віктар Касых. Памятаеце яго Даньку ў «Няўлоўных мсціўцах»? Як хвацка ўцякаў ён ад пагоні, здабываў звесткі ў тыле белых! Басаногі хлопчык, які стаў адважным разведчыкам. Хлапчук, які стаў акцёрам.

— Кіно для мяне пачыналася так. На «Масфільме» рэжысёр Э. Клімаў здымаў фільм «Сардэчна запрашаем, або Пабочным асобам уваход забаронен». Шукалі хлопцаў, якія добра ўмелі плаваць. У мяне быў разрад па плаванню, і так я апынуўся на пробах. Косця Інэчкін — мая першая роля ў кіно. Потым былі фільмы «Званяць, адчыніце дзверы», «Міма вокнаў ідуць паязды», эпізод у карціне «Бацька салдата». А потым прыйшлі «Няўлоўныя». У аснове сцэнарыя, як вы ведаеце,— кніга А. П. Бляхіна «Чырвоныя чарцяняты».

«Няўлоўныя мсціўцы» — прыгодніцкі фільм з вялікай колькасцю трукаў. Абыходзіліся без каскадзёраў. Нам неабходна было добра плаваць, страляць, кідаць ласо, імчаць на кані вярхом, кідаць нож. Усяму даводзілася вучыцца ў час здымак. Спорт стаў для нас, юных артыстаў, пастаянным захапленнем. Як мы ігралі ў фільме? Цяжка гаварыць аб прафесіянальным падыходзе да вобразаў, калі акцёрам па 13—14 год. Для нас і Данька, і Валерка, Аксана і Янка-цыган — проста надзейныя людзі, падобныя да якіх хацелася быць у жыцці.

Кінатрылогія пра «няўлоўных» з поспехам прайшла на многіх экранах, атрымала прэмію ЦК ВЛКСМ «Чырвоны гваздзік». А Віктар Касых стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола.

— Васілій Васільевіч,— працягвае свой расказ В. Касых,— стаў артыстам Курскай філармоніі, ездзіць з канцэртамі па Саюзу, Міхаіл Мяцёлкін закончыў рэжысёрскі факультэт Інстытута кінематаграфіі, займаўся ў майстэрні Ю. Озерава, вядомага гледачам па кінаэпапеі «Вызваленне». Валя Курдзюкова вырашыла прысвяціць сябе цыркавому мастацтву.

Сам Віктар вучыўся на акцёрскім факультэце Інстытута кінематаграфіі ў майстэрні С. Бандарчука. Многія гледачы ведаюць фільмы, у якіх ён здымаўся пасля «Няўлоўных»,— «Ташкент — горад хлебны», «З табой і без цябе», «Аазіс у агні», «Асаблівая думка», «Трывожная нядзеля», «Фронт у тыле ворага».

# БЕЛЫЯ МАРЫ

**Гэта каляровая мастацкая кінастужка знята рэжысёрам Сяргеем Ісраэлянам на кінастудыі «Арменфільм» па матывах апавядання Вагана Татавенца «Галубы».**

**Дзеянне кінакарціны адбываецца ў адным з маленькіх гарадкоў Арменіі ў канцы мінулага стагоддзя.**

**...Майстра Акопа ў гарадку ведалі ўсе. І не толькі таму, што ён быў выдатным цырульнікам, паслугамі якога карысталася добрая палавіна мужчын гарадка. Ен заслужана лічыўся самым сумленным і справядлівым чалавекам — да яго хадзілі вырашаць спрэчкі, ён мірыў тых, хто пасварыўся, мог даць карысную, разумную параду. А некаторыя лічылі яго дзівакам, мусіць, таму, што больш за ўсё на свеце Акоп любіў галубоў.**

**Была ў Акопа ў жыцці яшчэ адна любоў — дачка Ліло, ласкавае, сціплае стварэнне, надзея бацькі з маці, ужо нявеста. У Ліло быў жаніх — Ара, сын купца Тумаса. Яны былі заручаны яшчэ з дзяцінства, калі іх бацькі сябравалі паміж сабой і з знак сваёй вечнай дружбы вырашылі парадніцца. Але ішоў час, купец Тумас багацеў, яго цяпер ужо называлі з пачцівым словам «пан», а ў Акопа па-ранейшаму нічога, акрамя сціплага дома і любімай галубятні, не было. Дык ці можа сын першага чалавека ў горадзе жаніцца з дачкой галадранца!..**




Галоўных герояў іграюць Сос Саркісян, Генрых Алавердзян, Галя Новенц, Жэня Авецісян, Нэлі Херанян, Грач'я Аруцюнян і іншыя.

БЕЛЫЕ ГРЕЗЫ

...Мастера Акопа в городке знали все. И не только потому, что он был замечательным брадобреем, услугами которого пользовалась добрая половина мужчин городка. Он заслуженно считался самым честным и справедливым человеком — к нему ходили разрешать споры, он мирил поссорившихся, мог дать полезный, умный совет. А некоторые считали его «не от мира сего», вероятно потому, что больше всего на свете Акоп любил голубей.

Была у Акопа в жизни еще одна любовь — дочь Лило — нежное, чистое создание, надежда отца с матерью, уже невеста. У Лило был жених — Ара, сын купца Тумаса. Они были помолвлены еще со времени детских игр. Но может ли сын первого человека в городе жениться на дочери голодранца!.. Об этом кинокартина «Арменфильма».

# ЗАРУБЕЖНЫЯ ФІЛЬМЫ

Румынскі рэжысёр Марыя Калас Дыneску паставіла па сцэнарыю Петрэ Сэлкудзяну кінакарціну **«ЗАНАДТА ГОРАЧА ДЛЯ МАЯ»**.

...Складаны свет юнацтва... Як нялёгка часам шаснаццацігадовым, якія толькі ўступаюць у жыццё, разабрацца ў сваіх супярэчлівых пачуццях, неадназначных учынках, вызначыць іх правільнасць ці няправільнасць. І як няпроста бывае іншы раз дарослым, нават блізкім людзям, зразумець падлетка. Таму не выпадкова, расказваючы пра жыццё старшакласнікаў, фільм у немалой ступені звернут і да бацькоў, і да педагогаў.

Такім чынам, спякотныя дні мая. Хутка выпускныя экзамены. Старшакласнікі сабраліся на кватэры Мацея патанцаваць. У разгар весялосці ці то ад выпітага віна, ці то ад жадання некаму нешта даказаць Мацей раптам пачынае кідаць у акно талеркі. Адна з іх трапляе ў галаву дзяўчыне, якая ў гэты час праходзіла пад вокнамі, і яе ў крайне цяжкім стане вязуць у клініку.

Выпадковасць? Так. Але ў гэтай выпадковасці аўтары выяўляюць заканамернасць. Мацей — самаўпэўнены юнак з ярка выражаным комплексам выключнасці. Нават закаханая ў яго аднакласніца Андра не можа глядзець на яго высакамер'е, самаўпэўненасць і нахабства. Аднак страшней за ўсё аказваюцца паводзіны Мацея ў гісторыі з цяжка параненай дзяўчынай. Пры дапамозе свайго бацькі, які многа чаго дасягнуў сумленнай працай, але слепа любіць свайго адзінага сына, юнак ухіляецца ад адказнасці. За грашовую кампенсацыю ён угаворвае Раду, які ў яго на пабягушках, узяць на сябе віну. Той згаджаецца, і яго выключаюць з ліцэя.

Вопытны пракурор, чалавек высокага абавязку і гонару, у нядаўнім мінулым блізкі сябар бацькі Мацея, глыбока разабраўшыся ў справе, разумее, што злачынства ўчыніў не Раду. Ён верыць, што Мацею стане сорамна, і ён сам прыйдзе ў суд. Так у канчатковым выніку і адбываецца. Мы становімся сведкамі нараджэння ў яго душы пачуцця ўласнай годнасці, сапраўднай мужнасці і высакароднасці.

Ролі выканалі Марыяна Пракапіе, Адрыян Пэдурару, Стэлiян Ністар, Магда Катоне, Ольга Тудараке, Актавіян Катэску, Джорджэ Канстанцін і іншыя.

Умберта Солас, адзін з вядучых дзеячаў кубінскага кіно, пачаў свой шлях у кінематографе пасля рэвалюцыі. Шырокае прызнанне на Кубе і за рубяжом прынеслі яму карціны «Мануэла», «Лусія», «Кантата пра Чылі», «Сясілія». Новая яго кінастужка **«АМАДА»** — экранізацыя незавершанага рамана Мігеля дэ Карыёна «Сфінкс», у якім рэжысёр знайшоў працяг галоўнай для яго тэмы — становішча жанчыны ў кубінскім грамадстве.

Дзеянне фільма адбываецца ў пачатку стагоддзя ў доме землеўладальнікаў Вільялас, дзе жыве Амада з мужам і сляпой маці. Захлiснуўшая краіну атмасфера адчаю, безвыходнасці, расчаравання, узрастаючая карупцыя, якая, як карозія, раз'ядае грамадства, падточваюць асновы і гэтай сям'і. Гарачае пачуццё да Марсіяля, чалавека прамога і справядлівага, успыхнула ў Амады нечакана і захапіла цалкам. Для яе гэта выратавальны астравок ад мярзот жыцця. Яна не любіць свайго мужа, не паважае яго, разумеючы, што той даўно вядзе хітрую, брудную гульню. З дапамогай служанкі, якая карыстаецца поўным даверам сляпой гаспадыні, ён выманьвае грошы і каштоўныя паперы, патрэбныя яму для жаніцьбы на сваёй палюбоўніцы — жанчыне, далёкай ад сантыментаў. Амада задыхаецца ў доме, дзе пануюць несправядлівасць і абман, але так і не знаходзіць у сабе сілы разарваць вузы кансерватыўных сямейных асноў.

Выканаўца галоўнай ролі — Эслінда Нуньес — знаёма савецкаму гледачу па фільмах «Лусія», «Сясілія», «Коннік без галавы». У астатніх ролях здымаліся Сесар Эвора, Сільвін Планас, Андрэс Эрнандэс, Анейда Эрнандэс, Херарда Рыверон, Фела Хар.

**«ВОСТРАЎ ВОЛЬМІ»** — так называецца фільм рэжысёра з КНДР Чо Ген Суна. Абарона гэтага вострава — легендарная старонка ў гісторыі барацьбы з амерыканскімі захопнікамі.

...Іх было мала. Малады камандзір батарэі Тхе Ун, закаханая ў яго радыстка Ен Ок, адважны бясклапотны мінёр Сок Чжун, спакойны і ўраўнаважаны Мін Гук — парторг батарэі. Гэта яны і іх таварышы адстаялі востраў Вольмі, які перагароджваў шлях да сталіцы краіны.

Сюжэт фільма просты. Да вострава набліжаецца амерыканская эскадра. На барту эсмінцаў і тарпедных катэраў — узброеныя да зубоў марскія пехацінцы. А на востраве — усяго чатыры гарматы. Няроўнасць сіл прадвызначае трагічны фінал. Абаронцы вострава разумеюць гэта, але без ваганняў прымаюць рашэнне стаяць да канца. Амерыканцам не ўдаецца з ходу авалодаць востравам.

Адзін за адным гінуць абаронцы вострава. Цаной свайго жыцця падрывае варожы эсмінец мінёр Сок Чжун. Мужна сустракае смерць парторг Мін Гук. Апошнім падае камандзір...

У ролях — Чве Чхан Су, Чо Ген Сун, Чве Дэ Хен, Чха Сон Чхіль, Юн Су Ген, Пак Бон Ік, Чжон І Гем.

Героі фільма венгерскага рэжысёра Эрыка Санта **«ВЕЛІКАН»**, які ён зняў па ўласнаму сцэнарыю,— маладыя людзі Іштван і Юлі. У іх падобныя лёсы: вайна (дзеянне адбываецца адразу пасля яе заканчэння) абодвух зрабіла сіротамі. Яны выпадкова сустрэліся на вакзале паўразбуранага гарадка і з першага погляду пакахалі адзін аднаго. Старэнькі домік ля драўлянага склада становіцца прыстанішчам, дзе юная пара знаходзіць шчасце. Іштван гатоў без стомы працаваць, каб яго каханая не ведала нястачы. І няхай жыццё наладжваецца цяжка, Іштван верыць у будучыню. А Юлі не можа цярпліва пераносіць страты і цяжкасці. Сквапным і цынічным людзям удаецца ўнушыць ёй, што усё на свеце прадаецца і купляецца. Дзяўчына прымае іх мараль і пакідае свайго Велікана, як калісьці ласкава называла Іштвана.

У фільме зняліся Іштван Бубік, Вера Пап, Юдзіт Меслеры, Дзьёрдзь Дзёрнер, Хенрык Бароўскі, Эрыка Боднар, Хільда Гобі, Іштван Дэгі.

Рэжысёр з Чэхаславакіі Мілан Ружычка зняў па сцэнарыю, напісанаму Йозефам Паўлікам разам з рэжысёрам, кінастужку **«ПАД НАГАМІ НЕБА»**.

...У час трэніровачнага палету маладога лётчыка Ольды самалёт нечакана траціць кіраванне. І толькі цвёрдыя, дакладныя, спакойныя каманды з зямлі дапамагаюць яму шчасліва пасадзіць машыну.

У выніку перанесенага стрэсу ў маладога пілота развіваецца страх вышыні. Ён адмаўляецца ад далейшых палётаў і гатоў назаўсёды пайсці з авіяцыі, хоць з дзяцінства марыў стаць першакласным ваенным лётчыкам, якім быў яго загінуўшы пры выкананні вайсковага абавязку бацька.

Камандзір часці Лашцяк, чалавек высокіх маральных прынцыпаў, вопытны педагог і выдатны авіятар, уступае ў барацьбу за лёс свайго падначаленага. Ён прымушае Ольду згадзіцца на палёт, і сам, нягледзячы на забарону ўрачоў і хворае сэрца, робіць вучэбны палёт у пары з ім. У паветры яму ўдаецца дапамагчы Ольдзе перамагчы страх вышыні, набыць ранейшую ўпэўненасць.

Ролі выконваюць Лудэк Мунзар, Ондржэй Павелка, Маркета Фішэрава і іншыя.

**«ТРОЕ З АДНАГО ГОРАДА»** — кінакарціна польскага рэжысёра Станіслава Ендрыкі.

...1939 год. Буржуазная Польшча напярэдадні гітлераўскай акупацыі. Дзеянне фільма адбываецца ў невялічкім гарадку, дзе жывуць трое юных сяброў — сын рабочага Войтэк, сын шаўца Абрамек і дачка аптэкара Эрна. Яны ўвесь час праводзяць разам, мараць пра далёкія падарожжы.

Але вось мірнае жыццё парушана — пачалася вайна, у гарадок увайшлі фашысцкія захопнікі. На шчасце, нягледзячы на атмасферу агульнага страху і трывогі, дзіцячая дружба не распадаецца, а, наадварот, становіцца больш трывалай. Дзеці чэрпаюць у ёй сілы, каб перажыць гэтыя страшэнныя дні. У працівагу кашмару навакольнай рэчаіснасці яны ствараюць свой мікрасвет, свабодны ад махлярства, нянавісці і жорсткасці.

Суровы ваенны час прымушае іх разлучыцца і, мабыць, назаўсёды, але кожны ў душы сваёй захавае памяць пра сяброў дзяцінства і пра час, праведзены разам.

У фільме зняліся Томаш Ярасіньскі, Яцэк Брынярскі, Агнешка Канапчыньска, Малгажата Прытуляк, Кшыштаф Кершноўскі, Ганна Хадакоўска, Хенрык Біста.

Параўнальна нядаўна ў Францыі склалася і замацавалася трыо: акцёры П. Рышар і Ж. Дэпардзье і рэжысёр Ф. Вебер. Прадстаўляць іх савецкаму кінагледачу даволі проста — дастаткова толькі напомніць дзве кінакамедыі, якія мелі вялікі поспех,— «Цацка» і «Няўдачлівыя».

У новым фільме Ф. Вебера **«ТАТУЛІ»** П. Рышар і Ж. Дэпардзье іграюць двух мяркуемых бацькоў, якіх былая іх каханка кідае на пошукі сынка, збегшага з дому. Кожнага ў паасобку яна пераконвае, што гэта яго сын,— і для такога перакананння могуць быць падставы. Але гледачу зусім зразумела, што гэта, так сказаць, мацярынская святая мана,— сапраўдны бацька не праяўляе асаблівага старання ў пошуках.

Спачатку, ідучы паралельнымі шляхамі, у нейкі момант нашы героі, натуральна, сустракаюцца і пачынаюць дзейнічаць разам, ператвараючыся з саўдзельнікаў пошукаў у сапернікаў за сэрца «сына». У выніку ім удаецца галоўнае — прымусіць хлопца задумацца пра свой учынак, пра свае ўзаемаадносіны з бацькам.

Сучасная французская камедыя перажывае цяжкія часы. Аблегчанасць і пацяшальнасць, адсутнасць сацыяльнага фону, ігра на жартах ва ўрон сэнсу засмучаюць паклоннікаў гэтага жанру, які мае такія слаўныя традыцыі. Фільмы Франсіса Вебера прыцягваюць сваёй чалавечнасцю і дабратой. Яны — прыемнае выключэнне. І адначасова — падстава для надзей.

Яшчэ адна французская кінастужка выходзіць на нашы экраны. **«НЕЎТАЙМОЎНАЯ МАРКІЗА»** рэжысёра Бернара Бардэры — чарговая стужка з серыі фільмаў аб прыгодах Анжэлікі — расказвае пра тое, як маркіза, не паверыўшы чуткам пра смерць свайго мужа графа дэ Пейрака, пускаецца на яго пошукі. Ей нічога не вядома аб месцы знаходжання Жафрэ, які хаваецца ад каралеўскай расправы. І ў сваіх блуканнях яна трапляе то на нейкі востраў, дзе даведваецца, што граф сапраўды жывы, але ўзяў сабе іншае імя, то да каралеўскіх сышчыкаў, што ішлі па яе слядах ў надзеі, што ўрэшце рэшт маркіза прывядзе іх да Пейрака, то ў палон да піратаў, якія збіраюцца прадаць бялявую прыгажуню за вялікія грошы на Ўсходзе...

Многа прыгод адбудзецца з героямі, пакуль яны нарэшце не сустрэнуцца. Але радасць іх будзе кароткай — у чарговы раз Анжэліку ўкрадуць. Зноў разлука, зноў пошукі, а значыць — і новыя прыгоды...

Ролі выконваюць Мішэль Мерсье, Рабер Асейн, Ражэ Піго, Жан-Клод Паскаль, Крысціян Род, Алі Бен Айед, Эторэ Мані і іншыя.

Рэжысёры з Фінляндыі Пір'ё Ханкасала і Пекка Лехта знялі па свайму сцэнарыю кінакарціну **«СТАРОНКІ НЕЗВЫЧАЙНАГА ЖЫЦЦЯ»**.

Кнігі Маю Ласіла, аднаго з пачынальнікаў пралетарскай літаратуры ў Фінляндыі, перакладзены на многія мовы народаў свету. У нашай краіне ён вядомы як аўтар папулярнай сярод чытачоў і не так даўно экранізаванай гумарыстычнай аповесці «За запалкамі».

Узяўшы за аснову аўтабіяграфічны раман Ласіла «Хархама», аўтары кінакарціны ўзнавілі на экране старонкі жыцця гэтага выдатнага народнага пісьменніка, адважнага чалавека, змагара, які стаў пад сцягі пралетарскай рэвалюцыі 1918 года ў Фінляндыі і трагічна загінуў ад рук белафінаў.

У фільме зняліся Аско Саркола, Рэа Мауранен, Кары Франк, Рытва Юханта, Туома Раіла і іншыя.

Кінафільм **«СТРОЙ»**, створаны незалежным рэжысёрам і прадзюсерам Робертам Сігелам за межамі буйных студый Галівуда, не адзначаецца высокай мастацкасцю. Яго сіла ў іншым. Зараз, калі амерыканская агрэсія ў В'етнаме аб'яўлена кіруючымі коламі ЗША «высакародным мерапрыемствам», паяўленне такой карціны, як «Строй», несумненна, падзея важная і значная.

Былы салдат, удзельнік в'етнамскай вайны Расці трапляе ў турму. Яго псіхіка, пакалечаная вайной, не вытрымлівае. Спачатку ён імкнецца перарэзаць сабе вены, потым — павесіцца ў карцэры, а калі і гэта не ўдаецца,— прабівае галавой аконнае шкло, чуць не застаўшыся без вока. Папраўіўшыся і выйшаўшы на працу за сцены турмы, ён спрабуе ўцячы, але гіне ад стрэлу такога ж, як і сам, салдата...

У фільме зняты Рас Тэккер, Люіс Стэдлін, Кэтлін Толан, Жаклін Брукс і іншыя.

●

**...Сложный мир юношества... Как нелегко подчас вступающим в жизнь шестнадцатилетним разобраться в своих противоречивых чувствах, неоднозначных поступках, определить правоту и неправоту своих действий. И как непросто порой бывает взрослым, даже людям близким, понять подростка. Не случайно поэтому, рассказывая о жизни старшеклассников, фильм в неменьшей степени обращен и к родителям, и к педагогам.**

**Итак, жаркие дни мая. Старшеклассники собрались на квартире Матея потанцевать. В разгар веселья то ли от выпитого вина, то ли от желания кому-то что-то доказать Матей вдруг начинает кидать в окно тарелки. Одна из них попадает в голову проходящей девушки, и ее увозят в клинику в крайне тяжелом состоянии.**

**Случайность! Да. Но в этой случайности авторы усматривают закономерность. Все ли мы делаем, чтобы наши дети росли чуткими, скромными,— об этом идет речь в румынском фильме «СЛИШКОМ ЖАРКО ДЛЯ МАЯ».**

**Действие кубинского фильма «АМАДА» происходит в начале века в доме землевладельцев Вильялос, где живет Амада с мужем и слепой матерью. Страсть к Марсиалю, человеку прямому и честному, вспыхнула неожиданно и захватила Амаду целиком. Для нее это спасительный островок от мерзостей жизни. Она не любит своего мужа, не уважает его, понимая, что тот давно ведет хитрую, нечистоплотную игру. Амада задыхается в доме, где царят несправедливость и обман, но так и не находит в себе силы разорвать узы консервативных семейных устоев.**

**Сюжет корейского фильма «ОСТРОВ ВОЛЬМИ» прост. К острову приближается американская эскадра. На борту эсминцев и торпедных катеров — вооруженные до зубов морские пехотинцы. А на острове — всего четыре орудия. Неравенство сил предопределяет трагический финал. Защитники острова понимают это, но, не дрогнув, принимают решение стоять до конца. Американцам не удается с ходу овладеть островом.**

**Герои венгерского фильма «ВЕЛИКАН» — молодые люди Иштван и Юли. У них схожие судьбы: война (действие происходит сразу после ее окончания) обоих сделала сиротами. Они случайно встречаются на вокзале полуразрушенного городка и с первого взгляда влюбляются друг в друга. Ветхий домик около дровяного склада становится прибежищем, где юная пара обретает счастье. Но Юли не может терпеливо переносить лишения и тяготы. Алчным циничным людишкам удается внушить ей, что все на свете продается и покупается. Девушка принимает их мораль и покидает своего Великана, как она когда-то ласково называла Иштвана.**

**...Во время тренировочного полета самолет молодого летчика Ольды неожиданно теряет управление. И только твердые, точные, спокойные команды с земли помогают ему благополучно посадить машину. В результате перенесенного стресса у молодого пилота развивается страх высоты.**

**Командир части Лоштяк, человек высоких нравственных принципов, опытный педагог и прекрасный авиатор, вступает в борьбу за судьбу своего подчиненного.**

Об этом и рассказывается в чехословацком фильме «ПОД НОГАМИ НЕБО».

Польская кинокартина «ТРОЕ ИЗ ОДНОГО ГОРОДА» показывает нам буржуазную Польшу накануне гитлеровской оккупации. Действие фильма происходит в небольшом городке, где живут трое юных друзей — сын рабочего Войтек, сын сапожника Абрамек, дочка аптекаря Эрна. Они все время проводят вместе, мечтают о дальних путешествиях.

Но вот мирная жизнь нарушена — началась война, в городок вошли фашистские захватчики. К счастью, несмотря на атмосферу общего страха и тревоги, детская дружба не распадается, а, наоборот, становится прочнее. Дети черпают в ней силы, чтобы пережить эти страшные дни.

В новом французском фильме «ПАПАШИ» П. Ришар и Ж. Депардье играют двух предполагаемых отцов, которых их бывшая возлюбленная бросает на поиски сбежавшего из дома сына.

Вначале, идя разными путями, в какой-то момент наши герои, естественно, встречаются и начинают действовать сообща, превращаясь из соучастников поисков в соперников за сердце «сына». В результате им удается главное — заставить парня задуматься о своем поступке, о своих отношениях с отцом.

Французская кинокартина «НЕУКРОТИМАЯ МАРКИЗА» — очередная лента из серии фильмов о приключениях Анжелики. Она рассказывает о том, как маркиза, не поверив слухам о смерти своего мужа — графа де Пейрака, пускается на его поиски. Ей ничего не известно о месте пребывания Жоффре, скрывающегося от королевской расправы. И в своих скитаниях она попадает то на некий остров, где узнает, что граф действительно жив, но взял себе другое имя, то к королевским ищейкам, шедшим по ее следу в надежде, что в конце концов маркиза приведет их к Пейраку, то в плен к пиратам, которые собираются продать белокурую красавицу за большие деньги на Востоке...

Книги Майю Лассила, одного из зачинателей пролетарской литературы в Финляндии, переведены на многие языки народов мира. В нашей стране он известен как автор полюбившейся читателям и не так давно экранизированной юмористической повести «За спичками».

Взяв за основу автобиографический роман Лассила «Хархама», авторы финской кинокартины «СТРАНИЦЫ НЕОБЫЧНОЙ ЖИЗНИ» воссоздали на экране страницы жизни этого замечательного народного писателя, отважного человека, борца, вставшего под знамена пролетарской революции 1918 года в Финляндии и трагически погибшего от рук белофиннов.

В американском фильме «СТРОЙ» речь идет о том, как бывший солдат, участник вьетнамской войны Расти попадает в тюрьму. Его психика, искалеченная войной, не выдерживает. Сначала он пытается перерезать себе вены, потом — повеситься в карцере, а когда и это не удается, пробивает головой оконное стекло, чуть не лишившись при этом глаза. Поправившись и выйдя на работу за стены тюрьмы, он пытается бежать, но погибает, сраженный выстрелом такого же, как и он, солдата...

# НА КІНАЭКРАНАХ У СТУДЗЕНІ

**БІТВА ЗА МАСКВУ. Фільм першы. АГРЭСІЯ** (СССР — ЧССР).

Кінаэпапея «Бітва за Маскву» расказвае пра вялікі подзвіг савецкага народа, які ў суровым 1941 годзе разграміў палчышчы фашысцкіх войск, што рваліся да сталіцы нашай Радзімы. У першым фільме кінаэпапеі паказаны падзеі, якія адбываліся ў Еўропе напярэдадні і ў пачатку другой сусветнай вайны, напад гітлераўскіх войск на СССР, ваенныя дзеянні на тэрыторыі нашай краіны да верасня 1941 года.

**ІДЗІ І ГЛЯДЗІ** («Беларусьфільм» — «Масфільм»).

Герой кінакарціны — вясковы падлетак, юны партызан, які на сабе зазнаў усе жахі гітлераўскага генацыду. Яго лёс паўстае ў фільме як часцінка лёсу ўсяго савецкага народа, які са зброяй у руках змагаўся супраць фашысцкіх захопнікаў.

**ПАРОЛЬ ВЕДАЛІ ДВОЕ** (Кінастудыя імя А. Даўжэнкі).

У аснове прыгодніцкага фільма — рэальныя падзеі: аперацыя ўкраінскіх чэкістаў па ліквідацыі кіеўскіх контррэвалюцыянераў і выкрыццю дзейнасці рэакцыйных эміграцкіх цэнтраў у 20-я гады.

**ЯК СТАЦЬ ШЧАСЛІВЫМ!** («Масфільм»).

Фантастычная камедыя аб тым, што чалавек можа быць шчаслівым, толькі займаючыся справай, да якой у яго ёсць прызванне.

**ПАН ГІМНАЗІСТ** (Кінастудыя імя М. Горкага).

Дзеянне кінакарціны адбываецца ў 1920 годзе. Яна паказвае, як пятнаццацігадовы падлетак з сям'і патомных інтэлігентаў прыходзіць да разумення праўды, якую неслі бальшавікі.

**ЗДЗЕЛКА** (Кінастудыя імя М. Горкага).

Галоўны герой фільма, які расказвае пра палітычную барацьбу ў адной з лацінаамерыканскіх краін,— чалавек, што прабаваў застацца ў баку ад палітыкі.

**ДЗЯЦІНСТВА БЭМБІ** (Кінастудыя імя М. Горкага).

Музычны фільм пра юнае аленяня, яго сяброў і ворагаў у вялікім лесе.

**СЯРЭБРАНАЯ ПРАЖА КАРАЛІНЫ** («Талінфільм»).

Фільм-казка пра капрызную юную прынцэсу, якая ніяк не магла выбраць сабе жаніха.

**БЕЛАЯ РУЖА НЕЎМІРУЧАСЦІ** («Грузіяфільм»).

Фільм-казка, створаны на аснове грузінскага фальклору, расказвае аб прыгодах закаханых, якім дапамагла Белая ружа неўміручасці.

**ВЯЛІКІ ПАХОД ЗА НЯВЕСТАЙ** («Грузія-фільм»).

Лірычная кінакамедыя, дзеянне якой адбываецца ў пачатку нашага стагоддзя.

**ЖЫЎ-БЫЎ ДОКТАР** («Ленфільм»).

Псіхалагічная драма, якая расказвае пра ўрача сельскай бальніцы, чалавека з высокім пачуццём грамадзянскага абавязку.

**НЯВЕСТА ПАДЗЕМНАГА ПРЫНЦА** (Чэхаславакія).

Кінакарціна, знятая па матывах славацкай народнай казкі «Соль даражэй за золата», даводзіць, што сапраўднае чалавечае каханне даражэй за ўсе скарбы свету.

**ПАДМЕНЕНАЯ КАРАЛЕВА** (ГДР).

Фільм-казка, сюжэт якой будуецца на дзівосным падабенстве жонкі беднага каваля да жонкі караля.

**БАЛЬ КАЗАК** (Венгрыя).

Кінакарціна расказвае аб прыгодах папулярнейшых герояў казак братоў Грым, Андэрсена, Перо.

**НАСТОЙЛІВАСЦЬ** (Югаславія).

Стужка ўзнімае пытанні адказнасці мастака ў нашым складаным свеце.

**ФАТАГРАФІЯ Ў ВЯСЕЛЬНЫМ АЛЬБОМЕ** (Індыя).

Меладраматычная гісторыя, героі якой — майстры класічнага індыйскага танца.

**НАЧНЫЯ ЗЛАДЗЮЖКІ** (Францыя).

Драматычная кінааповесць пра беспрацоўных закаханых, якія не знайшлі прымянення сваім здольнасцям і з пачуцця помсты сталі грабежнікамі і забойцамі.

**ЗАГАДКА АДАСОБЛЕНАГА МАТЭЛЯ** (Мексіка).

Трагічная гісторыя маладой сям'і, якая прабавала пабудаваць свой матэрыяльны дабрабыт на злачынстве.

**ВЯСЁЛЕНЬКАЯ НЯДЗЕЛЯ** (Францыя).

Драматычны расказ аб тым, як адзін гандляр аказаўся пад падазрэннем у двайным забойстве — сваёй жонкі і яе палюбоўніка.

На першай старонцы вокладкі — папулярны акцёр Арыстарх Ліванаў, якога вы скора ўбачыце ў фільме «Пароль ведалі двое».

На чацвёртай старонцы — папулярная французская актрыса Марына Уладзі, з якой вы сустрэнецеся ў фільме «Ступені шлюбнага жыцця».

Фота «Саюзінфармкіно».

ШТОМЕСЯЧНЫ ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ПА КІНЕМАТАГРАФІІ.
ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП БЕЛАРУСІ.
МІНСК.

Рэдактар Ю. М. БАГДАНАЎ.
Рэдакцыйная калегія: І. А. ГРЫДЗІН, М. А. КАРАЛЕВІЧ (адказны сакратар), В. Ф. НЯЧАЙ, К. Р. РАМАНОЎСКІ, М. П. ФРАЙМАН, Ул. Т. ХАЛІП.

№ 12 (340). Выдаецца са жніўня 1957 г.

Адрасы і фотаздымкі акцёраў, а таксама іншы фактычны матэрыял рэдакцыя не высылае.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79.
Тэлефон — 32-86-22.



Здадзена ў набор 4.11.85. Падп. да друку 25.11.85. Фармат 60×90[illegible]. Друк глыбокі. Ум. друк. арк. 2. Ул.-выд. арк. 4. Ум. фарб.-адб. 5,5. Зак. 564. Тыраж 95 390 экз. Цана 30 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня Выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

